
Рэгіянальная газета

Будаваць дамы на месцы расстрэлаў не будуць

У гасцях у нас→3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Зурын арыент→5


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl



№ 03 (3062) Год LX | Беласток, 18 студзеня 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**«Куцця» ў Непублічнай пачатковай школе ў Арэшкаве перад самым Божым Нараджэннем, якое святкуецца паводле юліянскага календара, стала ўжо традыцыяй. Вучні, бацькі і настаўнікі гэтай школы састаўляюць вялікую школьную сям'ю. Ладзяць яны мерапрыемствы з мэтай захавання мясцовых традыцый, беларускай мовы і культуры. Сёлетняя «Куцця» адбылася 5 студзеня. Усе вучні і дашкольнікі прыгожа выступілі па-беларуску з прадстаўленнем «Батлейка», займальна спявалі калядкі, а на польскай мове падрыхтавалі слоўна-музычны мантаж на тэму Божага Нараджэння. Перадсвяточнае мерапрыемства ўдастоіў настаяцель Праваслаўнага прыхода ў Арэшкаве протаіерэй Лявонцій Анхім, які вучыць у школе праваслаўнай рэлігіі. Пасля завяршэння мастацкіх выступленняў сабраныя памаліліся, айцец Лявонцій прачытаў па-беларуску фрагмент Евангелля паводле Мацвея пра Хрыстовае Нараджэнне, блаславіў поснае харчаванне на прыгожа і багата прыбраных сталах, пажадаў спакойна і радасна правесці свята Раства Хрыстовага. Вучні, бацькі і настаўнікі спажывалі просвірку, посныя стравы і спявалі калядкі.**



# ШКОЛЬНАЯ «КУЦЦЯ» — ЯК СЯМЕЙНАЯ

Раніцай разам з вучнямі ў школу ў Арэшкаве прыбылі іх мамы і сталі рыхтавацца да агульнашкольнай «Куцці». Прынеслі яны з сабой загадзя падрыхтаваныя посныя стравы і ў сталовай прыкрылі сталы абрусамі ды расставілі традыцыйныя стравы, якія спажываюць падчас «Куцці». Аднак школьная «Куцця» распачалася ў гімнастычнай зале, якую раней упрыгожылі вучні з дапамогай настаўнікаў. Зрабілі яны сцэнічнае афармленне для выступленняў. У кутку залы стаяла вялікая ёлка, сцены былі ўпрыгожаны зоркамі, макетамі зялёных ёлак і анёлкаў. Пад столлю былі развешаны большыя зоркі, а святочныя аздобы ўпрыгожвалі аконныя шыбы. Сустрэча распачалася з выступу Малгажаты Галёнкі з вершам пра Божае Нараджэнне. Затым сабраных прывітала настаўніца беларускай мовы Ірэна Герасімюк. Расказала яна пра змест прадстаўлення «Батлейка», якое поўнасцю было ёю падрыхтаванае на літаратурнай беларускай мове, якой у арэшкаўскай школе вучацца ўсе дзеткі з першага па шосты клас.

— У прадстаўленні «Батлейка» вучні раскажуць пра Хрыстовае Нараджэнне. Побач Божай Маці, якая трымае на руках Хрыста, выступяць Іосіф, цар Ірад, вараж-бітка, смерць і добрыя ды дрэнныя анёлы, — заявіла настаўніца.

У мінулым годзе падчас «Куцці» вучні запрэзентавалі прадстаўленне «Цар Ірад» і слоўна-музычны мантаж, а два гады таму назад паказалі ў форме прадстаўлення традыцыйную «Куццю» і калядавалі па вясковых хатах. Гэтыя мерапрыемствы арганізаваліся ў галоўным пад апекай настаўніцы беларускай мовы Ірэны Герасімюк.

— Нашыя ўражанні ад сённяшніх выступаў добрыя. Мы стараліся рыхтавацца да прадстаўлення старанна, бо хацелі як найлепш паказацца перад бацькамі, якія дапамагалі нам выканаць уборы. Мы ахвотна спяваем калядкі і сёння праспявалі іх перад публікай, — сказалі арэшкаўскія вучні Магдалена Мішчук, Малгажата Галёнка, Габрыеля Краська і Марыюш Краська, якія выступілі па-акцёрску (вылучаюцца яны таксама падчас беларускамоўнага дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова»).

З калядкамі займальна запрэзентаваліся ўсе дзеткі, спяваць якіх навучыла настаўніца музыкі Марта Вершка. Вядзе яна ў школе вакальны калектыў «Вясёлыя нот-кі», які намерваецца прыняць удзел у агля-дзе калядак у Гайнаўцы. Пад апекай настаўніцы Камілі Плевы была падрыхтаваная нядоўгая польскамоўная частка. Настаўніца Ірэна Герасімюк ангажавала да беларускамоўнага прадстаўлення ўсіх дзетак, бо хацела, каб усе паказаліся перад бацькамі.

— Усе нашыя вучні ходзяць на заняткі беларускай мовы і сёння ўсе яны мелі магчымасць выступіць па-беларуску. Галоўныя героі сённяшняга прадстаўлення ходзяць на тэатральныя заняткі і ў іх рамках мы падрыхтавалі «Батлейку», — сказала настаўніца Ірэна Герасімюк.



■ — «Куцця» інтэгруе школьную сям'ю, а мы цешымся, што школа надалей дзейнічае ў Арэшкаве, — гаварылі маці вучняў, якія на здымку сядзяць за посным сталом разам з настаўніцамі

Вячэра была наладжана ў сталовай. Спачатку вучні, бацькі і настаўнікі памаліліся. Протаіерэй Лявонцій Анхім прачытаў па-беларуску фрагмент Евангелля паводле Мацвея, у якім распавядалася пра Хрыстовае Нараджэнне. Блаславіў ён поснае харчаванне на прыгожа прыбраных сталах і пажадаў спакойна і радасна правесці надыходзячыя святкаванні.

— «Куцця» папярэджвае Божае Нараджэнне, падчас якога Ісус прыходзіць на Зямлю да кожнага з нас. Спажываючы посныя стравы і спяваючы калядкі, мы пачынаем адчуваць атмасферу надыходзячага свята Раства Хрыстовага, — сказаў айцец Лявонцій. — Падчас «Куцці» дзеткі знаёмяцца з традыцыяй калядавання і поснай вячэры перад святам. Частка нашых вучняў калядуе па хатах падчас святкаванняў. Мы распачынаем вячэру з малітвы, чытання фрагмента Евангелля і блаславім стол, заставлены поснымі стравамі, так як рабілі нашы продкі. Жанчыны могуць абменьвацца рэцэптамі на поснае харчаванне. «Куцця» для вучняў, настаўнікаў і бацькоў даз-валяе нам інтэгравацца.

Спачатку сабраныя спажылі просвірку, а пасля елі посныя стравы.

— Добра, што мы спатыкаемся напярэдадні святкавання Божага Нараджэння з дзеткамі і педагогамі. Згодна нашай традыцыі, праводзім тут міла і ва ўзнёслай атмасферы час. Мы спачатку радаваліся выступам нашых дзетак, а цяпер супольна праводзім час за посным сталом. Падрыхтавалі мы посныя стравы, між іншым, пірог з макам, боршч з грыбамі, аладкі з макам, варэнікі з капустай і грыбамі, некалькі відаў рыбы і селядцы. Мы прынеслі таксама традыцыйны кампот з сушаных яблык і груш — абавязковы на нашых сталах падчас «Куцці», — сказалі Наталля Суліма, Агнешка Аўярчук і Анна Галёнка — маці вучняў арэшкаўскай школы. — «Куцця» інтэгруе школьную сям'ю. Мы цешымся, што школа ў Арэшкаве надалей дзейнічае, што арганізуюцца ў нас школьныя мерапрыемствы. Зараз праводзіцца рамонт школьнага будынка. На рамонт прадшкольнага аддзялення мы атрымалі сродкі з праекта, а астатняя частка будынка рамантуецца на школьныя сродкі.

Непублічная падставовая школа ў Арэшкаве паспяхова дзейнічае ўжо чацвёрты год. Зараз у школе займаюцца 16 вучняў і 4 дашкольнікаў. Пасля рамонту прадшкольнага аддзялення іх лік мае быць павялічаны на яшчэ малодшых дзетак. Вучні з дапамогай настаўнікаў і падтрымкай бацькоў выступаюць на многіх мерапрыемствах. Некаторыя імпрэзы адкрытыя для ўсіх жыхароў Арэшкава і навакольных вёсак. Падчас такіх імпрэзаў дзеткі прэзентуюць таксама па-беларуску. Арэшкаўскія вучні прымаюць удзел у дэкламатарскім конкурсе «Роднае слова» і конкурсе расказчыкаў «Беларуская гавэнда», а дзеткі са школьнага калектыву «Вясёлыя нcorrect» спяваюць беларускія песні і ўдзельнічаюць у конкурсе «Беларуская песня». Менавіта з-за ўдзелу ў беларускамоўных спаборніцтвах вучні непублічнай арэшкаўскай школы вядомыя на Гайнаўшчыне, а нават па-за яе межамі. Выступаючы падчас «Куцці», дзеткі ўдала паказалі свае ўмельцасці. У час гэтага мерапрыемства вучні перш за ўсё знаёмяцца з даўнімі вясковымі традыцыямі Арэшкава і наваколля.

Дырэктар Непублічнай пачатковай школы ў Арэшкаве Тамару Крайнік спаткаў я раней у Гайнаўцы і тады яны запрасіла мяне на ўрачыстую школьную «Куццю». Дырэктар паінфармавала, што не зможа прыняць удзелу ў сёлетнім мерапрыемстве, бо на святы Божага Нараджэння едзе ў Нямеччыну наведаць сваіх дзяцей і ўнукаў. Дырэктар Тамара Крайнік загадзя павіншавала вучняў, настаўнікаў і бацькоў з Раством Хрыстовым. Радасна правесці святы жадалі таксама настаўнікі сваім вучням, бацькам і ўзаемна сабе падчас «Куцці». Вучні з дапамогай настаўнікаў выканалі таксама ўпрыгажэнні на святочныя сталы, якія пасля прадавалі ахвотным. Сабраныя разыходзіліся дамоў у святочным настроі.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**





# Беларускія жарты

Дзіўная гэта штука чалавечая псіхіка. Трэба крыху пажыць на гэтым свеце, каб перастаць у ёй разбірацца. І добра пажыць, каб перастаць разбірацца ў ёй зусім. Ну, чым больш жывеш, тым менш разумееш.

Здаецца, яе ўжо цалкам, або амаль цалкам разгадаў у сваё маладыя гады, калі па зразумелых прычынах разбірацца ў гэтым проста не можаш хаця б з-за браку жыццёвага досведу. Але юнацкі максімалізм і абвостраная ў гэтыя гады бескампраміснасць не заўважаюць паўтонаў. Павышаны ўзровень тэстастэрону, а разам з ім і адрэналіну, прыдаюць упэўненасці ў сваіх сілах і ведах. Ну і ўсё гэта ў суме выліваецца ў адну вялікую памылку пра пабудову псіхікі таго біялагічнага віду, да якога з гонарам адносіш і сябе любімага, і які ў навуковых колах носіць аптымістычную назву „чалавек разумны".

Не будзем хадзіць далёка. Пагаворым пра нашыя беларускія справы, бо можа ў іншых землях у гэты час усё адбываецца па-іншаму, чым у нас, у тым ліку і з чалавечай псіхікай. Тады хай не даследуюць мясцовыя аналітыкі, не будзем забіраць у іх хлеба. Але што тычыцца Беларусі, то тут назіраецца поўная адсутнасць уздзеяння псіхікі на свайго ўладальніка, на таго самага, разумнага, паводле вызначэння сусветнай навукі.

Найяскравейшы прыклад — чаканне канца свету. Кажуць, што яго баяцца на ўсёй планеце і з прыходам кожнага новага года гэтая тэма абвастраецца. Беларусы зусім нядаўна таксама баяліся прыходу канца свету, што аб'ядноўвала нас хоць у нечым з блізкімі і далёкімі суседзямі. Але ўжо некалькі апошніх гадоў наша псіхічная эвалюцыя пайшла нейкім іншым шляхам, яшчэ не вывучаным сучаснай навукай. Мы сталі баяцца, што канец свету не прыйдзе, а калі і прыйдзе, то не вельмі скора. Нам яго не дачакацца. Як кажуць у народзе — не з нашым шчасцем.

— Калі ўжо гэты канец свету прыйдзе? — пачуў я нядаўна нервовае пытанне аднаго мужчыны ля дзвярэй крамы, скіраванае да другога, які з тае крамы выходзіў з пляшкай гарэлкі ў руцэ. Але выраз яго твару зусім не адпавядаў урачыстасці моманту. Быў усё адно нейкі заклапочаны і бязрадасны.

— А халера яго ведае! — адказаў ён. — Вельмі баюся, што зусім не прыйдзе. Хоць ужо даўно пара. А на закуску, як ты зразумеў, не хапіла грошай.

— Калі гэта ўжо ўсё скончыцца? — кажа кабета на гарадзенскім рынку, узіраючыся на цэннік, лічбы на якім істотна падраслі. — Яшчэ ўчора гэтая рэч каштавала танней. Я хацела яе купіць на Новы год у падарунак.

— Сапраўды, калі гэта ўсё скончыцца? — уздыхаючы кажа прадавачка. — Яшчэ ўчора долар быў таннейшы, то і прадукт таннейшы. А сёння падрос. Вось вы мне адкажыце на вашае ж пытанне! І калі гэта ўсё скончыцца? А рэч трэба было браць учора. Бярыце хоць зараз. А то, што будзе заўтра, ніхто не ведае.

— Што будзе, што будзе, — незадаволена буркнула жанчына. — Можа ўжо, нарэшце, канец свету будзе!

— Не спадзявайцеся на гэта, — махнула рукой суразмоўніца. — Колькі ўжо чакаем, а яго няма ды няма. Баюся, што зусім не будзе. Не з нашым шчасцем.

Зразумела, што людзі гаварылі не зусім сур'ёзна, ці зусім несур'ёзна. Але і не зусім жартавалі. Тут не да жартаў ужо. Як сцвярджае адна народная мудрасць, крыху перапрацаваная з такой жа народнай — у кожным жарце ёсць крыху жарту. Усё астатняе далёка не жарт. І гэта былі не жарты, а нейкі новы від псіхічнай эмоцыі, для якога яшчэ наватназвы не паспелі прыдумаць. Настолькі ён новы, і настолькі мясцовы з трывалай беларускай прапіскай.

Гэта калі людзі перастаюць рэагаваць непасрэдна на негатыўнае дзеянне, і адпаведна не шукаюць больш шляхоў як гэтага негатыву пазбегнуць. Настолькі ўжо згубілі веру ў тое, што хоць нешта можа залежыць ад іх. І таму, замест спробы паўплываць на канкрэтную сітуацыю асабіста, іх розум стаў будаваць абстрактныя і вельмі небяспечныя развагі пра змену сітуацыі самым кардынальным чынам. Можа яны на ўзроўні падсвядомасці ці інтуіцыі сапраўды думаюць, што канец свету гэта адзінае, што яны яшчэ зрабіць здольныя. Адзінае, што яшчэ залежыць ад іх асабіста.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Дапстрыкаўся?

Быццам бы наступіла зіма, і зараз сышла. Цэлымі днямі плюхоча дажджом, дзьме ветрам. Здавалася б, добра, што не холадна, але заадно і нядобра. Таму што людзі забарыкадаваліся ад дрэннай аўры ў хатах і каб не завянуць, ад світання да захаду гайдаюцца перад тэлевізарамі. От, цяпер гэта такое акно ў свет. Нібы шкляцца празрыстая, як быццам маляўнічая, і ўсё ж яны цесна закрытыя, не бачаць сусед суседа. Дык і ніхто не мае падставы, каб наведаць кагосьці, пабалбатаць, паскардзіцца на жыццё, на ўладу, на дурное надвор'е. Ці хаця б даведацца, што ў суседа або суседкі, якія дажываюць глыбокай старасці ў напаўразбураным доме — разам падумаць ці маюць чым напаліць у печы. А можа нават змовіцца і вырашыць разам іх наведаць. Толькі аб чым з імі размаўляць? Яны не маюць тэлевізара, а калі маюць, дык свецяць ім, каб ашчадзіць лямпачку. Ну, па меншай меры, каб трохі паслухаць чалавечай гаворкі. Дзіўнай гаворкі, не сваёй, але ўсё ж такі чалавечай. Зрэшты, не мае значэння хто і што кажа, таму што ніхто нікога не разумее. Так як жывуць людзі ў сваіх закрытых светах, так і гавораць на розных мовах. Той, хто сочыць толькі за серыялам, не разумее таго, для каго лічыцца толькі рэгіянальны канал. Пульт тэлевізара не толькі выключае непажаданую праграму. Адключае цікавасць да іншых людзей. Хто хоча паглядзець на караловыя рыфы паўднёвых мораў, пстрыкае ў пульт дыстанцыйнага кіравання, і зараз нырае ў блакітных глыбінях. Яму ўсё роўна, што на паверхні можа тапіцца чалавек. Хто цікавы, што новага ва Усходняй Украіне, націскае кнопку, і зараз сядзіць у акопе. Не занадта доўга, бо там жудасна і холадна. Але ад чаго пульт тэлевізара... Пстрык і ўжо пачынае міргаць лепшы свет: урачыстыя банкеты, экзатычныя падарожжы, маляўнічыя раманы, здрады...

Тым часам скончыліся каталіцкія святы, прыходзяць праваслаўныя — „krok po kroczku, najważniejsze, najpięknejsze w całym roczku" — працітую з памяці словы колішняга гіта радыёстанцыі „Тройка". Што святочныя дні без снегу, без саней! На дварэ шэра, бура і змрочна. З хаты не хочацца высунуць носа. Ой, што гэта парабілася на свеце!? Раней было так: зімой холадна сапраўды, людзі былі быццам бы менш гаваркія. Але ў летнюю спякоту ўсе раты да світання не зачыняліся. Чалавек у кожную пару быў чалавекам поўнасцю пагружаным у агульным свеце. Вялікдзень купаўся ў сонцы, Раство ва ўрачыстай белізне снегу. Каталіцкія святы мякка праходзілі ў праваслаўныя, і часам шчасліва сустракаліся ў адзін час. Цяпер таксама гэта можа здарыцца, але радасці ў тым мала. Каталіцкія суседзі запрашалі на святкаванне праваслаўных суседзяў — і ўзаемна. Разам гулялі на вяселлях, хрэсьбінах; сустракаліся на трызнах. Хоць сёння не варагуюць, не адмаўляюць сабе сяброўскіх жэстаў, але і рэальнасць, у якой яны жывуць, разляцелася на тысячы кавалачкаў. Усе адзін ад аднаго асобныя.

Асабіста я не люблю, калі халадна зімой. Але і не люблю, калі замест снегу плюшчыць дажджом. Разглядаючы гэта лагічна, не падабаецца ні гэта, ні гэта. На мой погляд, зімой павінна быць цёпла, але снежна. Хоць гэты пункт гледжання ўнутрана супярэчлівы, для мяне ён правільны. На жаль, тое, што правільнае, не мусіць быць рэальным. Толькі што для большасці людзей тое праўдзівае, што з'яўляецца для іх слушным. Назавем гэта праўдай залежнай ад кантэксту. Аднак кантэксты змяняюцца так жа лёгка, як каналы ў тэлевізары. На самой справе, справа не ў думках, а толькі ў іх кантэксце. Гэты сказ прыводзіць да высновы, што людзі, як правіла, не маюць поглядаў. Так што калі хтось верыць, што свята Божага Нараджэння павінна быць атуленае снегам, я з ім згодны, але пры ўмове, што тады будзе цёпла. Адно пэўнае, што гэта супярэчыць логіцы сезонаў, але кожны прызнае мне рацыю, што кожны чалавек мае права пстрыкаць пультам тэлевізара як яму заманецца. Але я памятаю, што калі я праводзіў час у паўднёвым паўшар'і Зямлі, як толькі пачалося спякотнае лета, я марыў пра чароўны пульт дыстанцыйнага кіравання, які адным пстрычком перанёс бы мяне ў маю заснежаную ў той час і закарэлую ад марозу вёску. Ну, і дапстрыкаўся. Толькі што тут ні зімы, ні снегу. І людзі пазачыняліся ў хатах. Нават не было як перадаць ім свае калядныя і навагоднія пажаданні! Нягледзячы на гэта, жадаю ім усяго найлепшага.

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Пакінуў нас Тадэвуш Канвіцкі

7 студзеня ва ўзросце 88 гадоў памёр у Варшаве Тадэвуш Канвіцкі, які нарадзіўся ў Новай Вілейцы на Літве, празаік, сцэнарыст, рэжысёр. Грамадзянін Вялікага Княства Літоўскага. Яму заўсёды былі блізкія праблемы польска-літоўска-беларускага пагранічча, а таксама той жа Літвы і Беларусі. Я некалькі гадоў таму меў вялікі гонар узяць у яго інтэрв'ю для «Нівы», што не было лёгкім, таму што ўжо ў той час пазбягаў ён журналістаў і ўвогуле адышоў ад публічнага жыцця. Падчас размовы, праведзенай яшчэ пры жыцці Сакрата Яновіча, звярнуў ён увагу:

— На мой погляд, ёсць такая еўрапейская ніша на паўночным усходзе: Фінляндыя, Эстонія, Латвія, Літва і якраз Беларусь. Невялікія краіны, але вельмі амбіцыйныя. Беларусі, аднак, патрэбнае станаўленне дзяржаўнасці. Гэта неабходнае для ўсёй Еўропы. І для мяне самога таксама. І так, дарэчы, і агаворваюся прытым, што можна не пагадзіцца са мной: у мяне ёсць невялікая крыўда да беларусаў у Польшчы. Даходзяць да мяне водгукі сваркі на Беласточчыне. У той жа час я думаю, што занадта мала ўвагі яны прыдаюць таму, што адбываецца ў самой Беларусі. На маю думку, польскія беларусы павінны адчуваць адказнасць за тое, што там адбываецца, лепш клапаціцца і турбавацца пра яе лёс. Каштоўнае, вядома, тое, што, напрыклад, робіць Сакрат Яновіч, ствараючы ў сябе ў Крынках штосьці роду беларускага П'емонта.

Мы згадвалі, беларускія тэмы ў ягонай кнізе «Каляндар і пясочніца», дзе больш за 40 гадоў таму адзначыў, што абавязаны Беларусі. У гэтай кнізе напісаў: «Беларусь, Беларусь. Чаму ты завешся Беларуссю, калі не маеш у сабе гэтай белі. Белыя толькі твае палі восенню, белыя — твары стомленых людзей. Ты павінна называцца Дабрарусь, павінна называцца Добраю Зямлёю Добрых Людзей».

У гутарцы са мной для «Нівы» сказаў: — Перш за ўсё я заўдзячваю Беларусі спосаб фарміравання маёй свядомасці, майго менталітэту. Яна была вельмі заблытанай у сваіх узаемасувязях. Беларускі элемент адыгрываў тут вельмі важную ролю. У маёй сям'і перамяшаліся беларускія і літоўскія матывы. Я зрабіў прыватнае адкрыццё, што чалавек можа быць у дзвюх перакрываючыхся ідэнтычнасцях. Можна мець адначасова беларускую і польскую ідэнтычнасці, беларускую і літоўскую, літоўскую і польскую, і г.д. Яны не знаходзяцца ў супярэчнасці не толькі ў інтэлектуальным сэнсе, але і ў маралі. Таксама звярніце ўвагу на тое, што Беларусь мае чыстую гісторыю. Гэтае перакананне таксама трывае дзесьці ў маёй свядомасці. Якая дзяржава ў Еўропе не ўдзельнічала ў рэйдах на іншыя краіны, не забівала іншых народаў. Беларусь заўсёды была бяскроўнай і неагрэсіўнай. Гэта мая Беларусь.

Затым дадаў: — Трэба мець веру ў маладую беларускую інтэлігенцыю. Хоць я баюся выкарыстоўваць слова «інтэлігенцыя», таму што ва ўсіх краінах на яе налятаюць, яе не любяць, таму што яна ўвесь час у трывогах, ці ўсё навокал добра ідзе. Я хацеў бы, каб беларуская ідэнтычнасць, а разам з ёю яе інтэлігенцыя, як мага хутчэй зноў пабудавалася (...). Пры ўсім тым балюча мне цяпер, калі ўсё, што з Мінска, расійскае. Задзіўляючая ў Беларусі неахвота да беларускай мовы (...). Беларусь мае правы быць не толькі правінцыйнай рускай губерняй, але вельмі сімпатычнай еўрапейскай краінай, якая можа раптам прынесці нешта цікавае свету. Магчыма, якісьці беларускі вучоны вынайдзе нешта вялікае, нейкі паэт напіша штосьці, перад чым усе ўпадуць на калені. Беларусь, аднак, павінна знайсці сваё месца ў свеце, акружаная сімпатыяй (...). Справа ў тым, каб тая Беларусь не была ані русіфікаванай, ані польшчанай. Я марыў бы, каб яна паказалася ў Еўропе са сваім абаяннем маладой нявінніцы, каб іншыя яе палюбілі.

Падкрэсліў таксама: — У выпадку Беларусі небяспечная апатыя. Сімпатычна пасядзець пры блінах і самагонцы, што і мне падабаецца. Але гэта недастаткова, каб зацвердзіцца ў сённяшнім свеце. Беларусь з гэтым чыстым, светлым мінулым, не абцяжараная ніякім грэхам, мусіць атрымаць больш шырокі вопыт, і было б добра, каб ён не быў драматычным.

Інтэрв'ю я ўзяў у адным з пакояў выдавецтва «Czytelnik», у будынку якога ў ніжняй частцы знаходзіцца легендарны рэстаран. Тадэвуш Канвіцкі калісь прыходзіў у яго амаль кожны дзень не толькі на абед, але і каб абмяняцца думкамі з іншымі творцамі. Меў там свой столік, куды ніхто не меў адвагі сесці ў яго адсутнасць. У апошнія гады, усё часцей і часцей, месца было пустым. Пустаты пасля Тадэвуша Канвіцкага не ўдасца запоўніць, пустаты пасля аднаго з апошніх захавальнікаў памяці пра традыцыі і завяшчанне Вялікага Княства Літоўскага і аднаго з самых вялікіх сяброў беларусаў, якіх ён лічыў сваімі землякамі.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Газета тых, хто не хоча стаць нацыянальнай меншасцю ў Беларусі

Манцэвіч? У мяне адразу асацыяцыя — Наста Манцэвіч, маладая (1983 г. нараджэння) беларуская паэтэса, аўтарка дэбютнай кнігі «Птушкі» (2012), у якую ўвайшлі тэксты напісаныя цягам пяці гадоў — вершы і кароткая проза. Зборнік выйшаў у выдавецтве «Логвінаў» у падсерыі «Пункт адліку», распачатай Саюзам беларускіх пісьменнікаў для маладых аўтараў. Наста Манцэвіч скончыла БДЭУ, вучыцца ў Маскоўскім гештальт-інстытуце, працавала на Еўрарадыё. Таксама ў 2012 годзе выйшаў яе электронны зборнік вершаў «Гэта ня лічыцца». Удзельніца праекта «Чорна-белыя вершы». Пераможца ў міжнародным паэтычным слэме на Махно-фэсце (2008, Гуляйполе, Украіна), фіналістка літаратурнага конкурсу да 100-годдзя «Нашай нівы», арганізаванага Беларускім ПЭН-цэнтрам. Нарадзілася ў сям'і журналістаў. Бацька — Аляксандр Манцэвіч і маці Ніна Манцэвіч працуюць у «Рэгіянальнай газеце» (Маладзечна). Ёсць у яе малодшая сястра Аўгіня Манцэвіч. А з яе бацькамі Аляксандрам і Нінай сустракаемся ў рэдакцыі «Нівы», куды зайшлі яны прыехаўшы на Беласточчыну, з вялікім пакетам экземпляраў беларускамоўнай «Рэгіянальнай газеты». У нечым вельмі падобнай на беластоцкую «Ніву», цяперашнюю і колішнюю, з вялікім раскладам тэлевізійнай праграмы. Бо гэта таксама прыцягвае чытача. А маладзечанская газета мае сваіх чытачоў, якія рашуча ўмеюць пазмагацца за яе нават з дзяржаўнымі ўстановамі. Перш за ўсё таму, што яна — беларускамоўная.


Злева: Аляксандр Манцэвіч, Ганна Кандрацюк і Ніна Манцэвіч

— Ёсць такая газета ў Маладзечне. Я — галоўны рэдактар, і мая жонка Ніна — заснавальнікі «Рэгіянальнай газеты», дзе працуе 11 асоб. Вы асацыюеце наша прозвішча з фейсбукам? Наша старэйшая дачка Аўгіня — падарожніца, вядзе блог. А Наста вам вядомая як паэтэса. А наша газета выдаецца ўжо 19 гадоў — выдаецца з 28 красавіка 1995 года. Выдаемся штотыдзень. Раён распаўсюджвання — былы цэнтр Вілейскай вобласці, пасля Маладзечанскай вобласці — частка колішняй Віленшчыны. Выданне аб'ядноўвае інфармацыйную прастору чатырох раёнаў Мінскай вобласці (Маладзечанскі, Вілейскі, Мядзельскі і Валожынскі) і трох раёнаў Гарадзенскай вобласці (Смаргонскі, Ашмянскі, Астравецкі). Гэта 24-палосны тыднёвік фармату А3, наклад каля 6 250 асобнікаў. «Рэгіянальная газета» была першым масавым недзяржаўным выданнем у рэгіёне. Спачатку выходзіла яна на 4 старонках, паступова набірала аб'ём, паляпшала якасць інфармацыі і сваё афармленне, стаўшы аўтарытэтным мясцовым выданнем. Цяпер яна адзін з нешматлікіх беларускамоўных рэгіянальных СМІ ў Беларусі. «Рэгіянальная газета» — недзяржаўнае выданне, якое не з'яўляецца выразнікам інтарэсаў і пазіцый якой-небудзь палітычнай партыі, рэлігійнай канфесіі, органаў улады. У сваіх публікацыях паказваем супрацьлеглыя пункты гледжання, пазбягаючы тэндэнцыйнасці. Неадночы наш тыднёвік станавіўся ініцыятарам грамадзянскіх і культурных акцый. Адна самая істотная з іх — штогодні рэгіянальны конкурс самадзейных выканаўцаў «Адна зямля». Выступіла заснавальнікам яго разам з аддзеламі культуры раёнаў рэгіёна. Цяпер гэта адзін з самых папулярных рэгіянальных конкурсаў у Беларусі. Газета разлічаная на масавага чытача рознага ўзросту і актыўнай жыццёвай пазіцыі. Мы працуем для людзей, якія з павагай ставяцца да мінулага, з надзеяй глядзяць у будучыню, а сваё сённяшняе будуюць самі. Галоўнай мэтай газеты з'яўляецца павышэнне ўзроўню інфармаванасці грамадзянскай супольнасці рэгіёна шляхам збору і распаўсюджвання высакаякасных навін, інфармацыі і забаўляльных матэрыялаў. Працуюць у нас Зоя Хруцкая, Настасся Роўда, Наталля Тур, Алесь Высоцкі, Марыя Бераснёва, Сяргей Гайковіч, Аляксандра Парахня, Вольга Юркевіч. Быў момант, калі мы не выдаваліся. Некалькі разоў газета падвяргалася рэпрэсіям. У 2004 годзе яна вымушана была прыпыняць свой выхад пасля адпаведнага загаду міністра інфармацыі. Не была ўключаная ў падпісны каталог на 2006 год. Я, як дырэктар ТАА «Рэгіянальная газета» і галоўны рэдактар аднайменнага выдання атрымаў ліст ад генеральнага дырэктара РУП «Белпошта», у якім паведамлялася, што яго выданне не ўключанае ў падпісны каталог на першае паўгоддзе 2006 г.

ТАА «Рэгіянальная газета» звінавачвалі ў тым, што яно «неадназова парушала» свае абавязацельствы перад «Белпоштай»: у прыватнасці, не плаціла за ўключэнне выдання ў падпісны каталог на 2005 г.; не аплачвала рахункаў за дастаўку газет павышанай палоснасці; несвоечасова паведамляла пра неабходнасць павышэння палоснасці.

У лісце генеральнага дырэктара гаварылася, што «РУП „Белпошта" знаходзіцца ў складаным эканамічным становішчы», і што «выкананне фінансавай дысцыпліны — найважнейшая з умоў заключэння дамоваў». «Акрамя таго, адсутнасць своечасовай інфармацыі пра павелічэнне палоснасці выдання дэстабілізуе працу падраздзяленняў паштовай сувязі, занятых экспедываннем і перавозкай друку», — гаварылася ў пасланні.

Фармальныя «зачэпкі» для скасавання дамоўленасцей з выданнем у «Белпошты» былі. Але ўсе пералічаныя «парушэнні абавязацельстваў» адбываліся з ведама «Белпошты» і без усялякіх прэтэнзій з боку прадпрыемства, якое заўсёды пакрывала свае дадатковыя выдаткі з «падпісных» грошай «Рэгіянальнай газеты».

Лічу, што, па сутнасці, гэта зачэпкі, якія можна знайсці ў дзейнасці любога суб'екта гаспадарання. Мяне абурала такая розніца ў стаўленні да прадпрыемстваў дзяржаўнай і недзяржаўнай формы ўласнасці... Па падліках нашага бухгалтара, за 10 месяцаў 2005 г. наша «звышпалоснасць» абышлася «Белпошце» ў 66 210 рублёў (якія прадпрыемства вярнула за кошт грошай на падпіску). І гэткая сума «дэстабілізавала працу» цэлага прадпрыемства? На маю думку, гэта палітычнае рашэнне... «Рэгіянальная газета» зарэгістраваная як рэспубліканскае выданне, і таму паведамленне пра скасаванне дамоўленасцей прыйшло непасрэдна ад кіраўніцтва РУП «Белпошта». Па інфармацыі БАЖ, шмат якія рэгіянальныя выданні ў бліжэйшы час маглі атрымаць аналагічныя пасланні ад абласных і раённых аддзяленняў «Белпошты». 16 мая 2006 г. распаўсюджанне газеты аднавілася праз шапікі «Белсаюздруку» Мінскай вобласці пасля звароту чытачоў з Маладзечна і Вілейкі. Міністр адмяніў сваё рашэнне, але мы страцілі на гэтым палову чытачоў... У лепшыя часы было іх у нас 11 тысяч. Сёння «РГ» выходзіць кожную пятніцу на 24 старонках, мае інтэрнэт-версію, дзе публікуецца інфармацыя, а таксама рэклама і аб'явы з усяго рэгіёна. Уваходзім у склад Асацыяцыі выдаўцоў рэгіянальнай прэсы «Аб'яднаныя Масмедыі». Упершыню стварылі мы свой сайт у сакавіку 2000 года. Стваральнік — маладзечанец Дзмітры Бараноўскі. Інтэрнэт-старонка выдання была адным з першых падобных рэсурсаў у рэгіёне. Да 2009 года інтэрнэт-версія газеты неістотна адрознівалася па змесце ад папяровай версіі выдання. У асноўным публікацыі, змешчаныя ў сеціве, паўтаралі старонкі тыднёвіка. Змест сайта абнаўляўся адзін раз на тыдзень. Пасля запуску абноўленай версіі сайта 15 траўня 2009 года на новым адрасе палітыка выдання адносна зместу і рэгулярнасці падачы інфармацыі змянілася. З гэтага часу сайт публікуе навіны штодня, што робіць немагчымым размяшчэнне многіх з іх у тыднёвіку з прычыны страты актуальнасці. 25 лістапада 2009 года тыднёвік быў адзначаны дыпломам інстытута FOJO (Швецыя) за найлепшы рэдызайн інтэрнэт-сайта. Адной з прыкмет сайта «Рэгіянальнай газеты» стала яго мультымедыйнасць. Тут публікуюцца фотарэпартажы, аўдыёзапісы, відэа. 1 траўня 2013 года рэдакцыя правяла сваю першую анлайн-трансляцыю з вуліц Маладзечна. 13 мая 2013 года ў прамым інтэрнэт-эфіры прайшоў круглы стол, прысвечаны праблемам мясцовага футбола. Асноўныя рубрыкі і раздзелы газеты: «Адна зямля» (культура), «Базарны дзень» (эканоміка), «Куфэрак» (гісторыя), «Вакол здарэння», «Грамадства», «Сектар спорту», «Рэкламы і аб'явы», «Тэлетыдзень» (праграма тэлебачання). Узнагароды і адзнакі: другое месца ў намінацыі «Дэбют» конкурсу «Вольнае слова» (2013) у журналісткі Зоі Хруцкай; дыплом за перамогу ў намінацыі «Лепшы тлумачальны артыкул» конкурсу «Лепшая рэгіянальная газета 2013 года», арганізаванага Асацыяцыяй выдаўцоў рэгіянальнай прэсы «Аб'яднаныя Масмедыі»; другое месца ў намінацыі «Лепшая рэгіянальная газета года» конкурсу «Лепшая рэгіянальная газета 2013 года», арганізаванага Асацыяцыяй выдаўцоў рэгіянальнай прэсы «Аб'яднаныя Масмедыі» (каля 15 выданняў)...

— Мы не здаёмся. І наша каманда — аптымісты. Апошні год быў цяжкаваты фінансава. Сама газета — танная. Прыбыткі ёсць — ад рэкламы. Не будзе рэкламы — не будзе газеты. Укладыш-тэлепраграму таксама самі робім. У нас каля сотні рэкламадаўцаў. Некаторыя спецыяльна падаюць тэкст рэкламы па-беларуску. Наша сядзіба ў Маладзечне, наймаем у кааператыўным доме поўпадвальнае памяшканне, 90 квадратных метраў, адзін чалавек працуе пастаянна ў Мядзеле. Газета паяўляецца з нумарам з пятніцы.

Стараемся звяртаць увагу на грамадска важкія праблемы. Напрыклад, на Маладзечаншчыне адзін мільянер рашыў пабудаваць два буйныя свінакомплексы па сто тысяч галоў. Галоўная тэма цягнулася некалькі нумароў. Урэшце райвыканкам сказаў, што адзін са свінакомплексаў каля Мойсічаў будаваць не будуць. Але мы яшчэ працягваем гэтую тэму. Або была тэма, як гэтая самая кампанія Чыжа рашыла будаваць на месцы расстрэлаў у Валожыне жылыя дамы. Валожынскі райвыканкам адказаў нам, што не мае сведкаў таго, ці там расстрэльвалі людзей. Мы знайшлі сведкаў гэтых падзей, якія ў адным з нумароў далі нам інтэрв'ю. І рашэнне было, што будаваць дамы на месцы расстрэлу не будуць. Ну, гэта не значыць, што наша газета вырашыла аб гэтым, але мы прычыніліся да гэтай грамадскай кампаніі...

Распаўсюджваемся праз «Белпошту», праз падпіску — тысяча з невялікім экземпляраў, астатняе ўсё ці праз «Саюздрук» (нам не вельмі цікава, бо грошы плацяць праз вельмі доўгі час), і праз прыватныя крамы — наймаем шафёра і развозім тыднёвік па крамах. Экземпляр каштуе каля 4 тысяч беларускіх рублёў, дзе крыху даражэй, дзе крыху танней, бо ў розных прадаўцоў — мы ўстанаўліваем сваю цану (2 700 руб.), а ў розніцы прадавец вырашае. Ды асноўны прыбытак дае нам рэклама. Ёсць нават прыватныя рэкламы па-беларуску, напрыклад, «Парубаю вам дровы».

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

## Пачэсныя донары

Зараз у Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) маем пятнаццаць заслужаных пачэсных донараў. Найбольш крыві аддаў Тамаш Савіцкі з Нараўкі — больш 18 літраў. Па 12 літраў крыві аддалі Мечыслаў Грыц і Дарыюш Валадкевіч з Нараўкі, Валянцін Янкоўскі з Альхоўкі і Яраслаў Савіцкі з Бярнадскага Моста ды 10 літраў — Іаланта Лаўрыновіч са Стачка.

Па 6 літраў «дару сэрца» аддалі Данель Грыц, Данель Галубоўскі, Аляксандр Шыманюк і Аліна Галубоўская з Нараўкі, Эдвін Любартовіч з Гарадзіска, Пётр Крышань з Новага Ляўкова, Адрыян Барэчка з Плянты, Вольга Савіцкая са Свінароў і Данель Баброўскі з Семяноўкі. Іх кроў ратуе жыццё цяжка хворым людзям.

Усе яны заслугоўваюць вялікай пашаны нашага грамадства. Нараўчанскім донарам Польскі чырвоны крыж прысвоіў званне заслужаных пачэсных донараў. Маюць яны спецыяльныя значкі і кніжачкі, на аснове якіх карыстаюцца прывілеямі, між іншым, без чаргі купляюць лекі ў аптэцы і не чакаюць у чарзе да лекара.

30 снежня 2014 года падчас сесіі Гміннай рады ў Нараўцы вышэйзгаданыя донары атрымалі рэчавыя ўзнагароды ад гмінных улад.

## Будуюць камунальныя кватэры на Бэма

Камунальныя кватэры ў Беластоку запатрабаваныя. Зараз перад уладамі за камунальнымі кватэрамі хадайнічаюць 70 грамадзян. На г.зв. сацыяльныя кватэры (яны ў заніжаным стандарце) чакае трыста асоб.

Сёлета здадуць у карыстанне першы пяціпавярховы жылы блёк, а ў ім 70 кватэр па вуліцы Бэма. Кватэры будуць мець ад 30 да 70 квадратных метраў жылой плошчы. Кватэранаймальнікі атрымаюць скляпы (piwnice) і падземны гараж. Інвестыцыя будзе каштаваць 9,5 млн. злотых.

На пасёлку Бэма ў гміны ёсць васьмігектарны ўчастак пад жыллёвае будаўніцтва. Хопіць тут месца для 15 камунальных блокаў, у якіх будзе 900 кватэр. У першым этапе горад паставіць тры жылыя блокі.

Ёсць ужо дакументацыя і дазвол на пабудову другога і трэцяга блокаў. Будзе ў іх 101 кватэра ўжо ў 2016 годзе. Гэтыя два будынкі маюць каштаваць 30 млн. зл. Вышэйзгаданыя тры будынкі горад пабудзе дзякуючы дафінансаванню з Банка краёвага гаспадарства ў памеры 8 млн. злотых.

(яц)

## ПАДЗЯКА

**Рэдакцыя „Нівы” сардэчна дзякуе ўсім нашым Чытачам, установам і прыхільнікам за святочныя і навагоднія пажаданні. Будзем разам і ў 2015 годзе!**

# Без каранёў няма жыцця



**Марк Карнілюк**, 50 гадоў, жыве ў Беластоку, бацька шчаслівай двойкі дзяцей, па прафесіі электрамеханік, ад пяці гадоў па-аматарску займаецца генеалогіяй. З падручным сканерам амаль не растаецца, асабліва ў час паездак у вёску, да сваякоў. Капіруе тады знойдзеныя там старыя здымкі, дакументы, гутарыць з найстарэйшымі жыхарамі, запісвае іх успаміны. Генеалогія з'яўляецца асноўнай тэмай яго сустрэч, у тым ліку з чытачамі нашага тыднёвіка.

### Этымалогія

Не зусім лёгкая ў вымаўленні „генеалогія” выводзіцца з латыні і грэчаскай мовы. Слова „гэнеа” абазначае „род”. „Генеалогія”, у сваю чаргу, гэта аповед пра даўнюю гісторыю роду. Удакладняючы: па-першае — гісторыя роду, запісаная альбо захаваная ў вуснай традыцыі, радаслоўе; па-другое — дапаможная навука гісторыі, якая даследуе адносіны сваяцкасці паміж людзьмі, а таксама вызначае дату нарадзін, шлюбу і смерці; па-трэцяе — абазначае паходжанне, пачатак нечага, для прыкладу, горада ці гістарычнай аповесці.

### Пакінуць нешта па сабе

— Мая прыгода з генеалогіяй нарадзілася з камбінацыі некалькіх фактараў, — гаворыць спадар Марк. — Я вырас, меў крыху больш вольнага часу. У сувязі з праблемамі са здароўем пачаў раздумваць над тым, што магу па сабе пакінуць. А яшчэ заўсёды я любіў рашаць лагічныя заданні, якіх шмат знайшоў таксама ў генеалогіі. Спалучылася гэта з пануючай якраз модай шукаць уласныя карані. Кругом шмат гаварылася пра тое, але ніхто нічога не ведаў. Не было скуль даведацца. Аднойчы з сынам адправіліся мы да маіх бацькоў. Нечакана бацька пачаў сыпаць фактамі як з рукава. На працягу дзвюх гадзін я даведаўся больш, чым на працягу папярэдніх гадоў. Старых здымкаў, на жаль, у яго захавалася няшмат, але на іх след трапіў я пазней, пры нагодзе сустрэч з іншымі людзьмі. Усе сабраныя матэрыялы дапамаглі мне ў разрысаванні сямейнага генеалагічнага дрэва.

### Генеалагічная пушча

— Спярша я вызначыў чатыры асноўныя напрамкі пошукаў: са стараны бацькі Давідовічы — месца нараджэння прадзеда, Злотнікі — адкуль паходзіла баба Вольга Аляксюк. З мамінай стараны ад Ярашэвічаў — Старое Сяло і баярскае Мокрае, дзе мае прадзеды працавалі бортнікамі.

Новы занятак прынёс Марку Карнілюку вялікае задавальненне. Абшар дзеянняў паступова пашыраўся. Пад гістарычны аналіз папалі не толькі продкі са стараны жонкі, але і суседзі, іншыя вёскі, а потым цэлыя прыходы. Адной з перашкод у пошуках былі частыя замены прозвішчаў. Толькі ў яго сям'і мянялі іх тройчы. У кнігах з XVIII і XIX стагоддзяў даступных у беластоскім архіве прачытаў пра мінулае Кажан.

— Аб прыхаджанах з Падбелля назбіраў я столькі матэрыялаў, — хваліцца мой суразмоўца, — што магу распісаць генеалагічнае дрэва кожнаму з іх. Тут маю на ўвазе перыяд з 1884 па 1960 год. Адной з разынак у маёй калекцыі з'яўляецца, між іншым, спіс з 1821-1830 гадоў, які датычыць жыхароў уніяцкіх прыходаў у Мастаўлянах, Ялоўцы, Мілейчычах, Зубачах, Сасінах і Такарах.

### Крыніцы ведаў

Матэрыялаў шукае ўсюды. Гаворыць з людзьмі, наведвае архівы. Найбольш дакументаў прывёз з архіва ў Вільні. На Беласточчыне справа з доступам да крыніц даволі складаная.

— Святары да генеолагаў ставяцца як да неабходнага ліха, — скардзіцца даследчык. — Забіраем іх каштоўны час, а прытым астаткі прыхадскіх архіваў паказваюць нам бясплатна. Вядома, шмат чаго прапала ў час бежанства, Першай і Другой сусветных войнаў, але ўсё-такі нямала захавалася. Жаль, што на працягу пасляваенных дзесяцігоддзяў царкоўныя архівы знішчаліся ўласнаручна самымі святарамі. Іх кідалі ў агонь альбо нішчылі іх мышы ці грыб.

### Кім яны ёсць

Кожная вёска мае свой дыялект, свае схільнасці. Гэта народ, які ўжо 500 гадоў пражывае ў межах Рэчы Паспалітай і карыстаецца моваю, якой бліжэй да беларускай ці ўкраінскай, чым да рускай. Яны проста тутэйшыя, — кажа спадар Карнілюк. — Мяне асабліва кранае несвядомасць уласных каранёў. У асноўным нашае грамадства не займаецца пераказам сямейных гісторый. Ведаем кім былі нашыя дзяды, але што было да гэтага многім застаецца таямніцай.

### Падляшскае генеалагічнае аб'яднанне

ўзнікла ў верасні 2014 года. На яго пасяджэннях выносіцца, між іншым, справа заняпаду царкоўных архіваў.

— Збіраемся напісаць пісьмо мітрапаліту пра складанасці, якія сустракаем, шукаючы дакументаў у цэрквах, — гаворыць мой суразмоўца. — Калі бацюшка вымае дакументы з хлеўчыка, у якім трымае дровы, то нават неадукаванаму чалавеку забаліць сэрца, не гаворачы ўжо пра людзей, якія жывуць справай. У бліжэйшых планах ёсць таксама адкрыццё сайта, які дапаможа ў пошуках інфармацыі, дакументаў ці здымкаў. Хочам аб'яднаць індывідуальныя архівы нашых членаў і сімпатыкаў у адну вялікую цэласць.

Пакуль сустрэчы аб'яднання адбываюцца ў падбельскіх Студзіводах, у памяшканні аднаго з членаў — Дарафея Фіёнка. У прошлым годзе спадар Марк зладзіў выстаўку старых здымкаў у Целушках. Падобную акцыю плануе правесці, між іншым, у Мокрым.

### Падтрымка

— На сваёй дарозе сустрэў я Сяргея Баравіка, які паказаў мне, што можна зрабіць нешта з нічога. Больш за двухгадовае з ім супрацоўніцтва заахвоціла мяне да далейшай працы. На жаль, не магу сказаць гэтага пра нашых вучоных, якія рашуча адмаўляюцца ад якога-небудзь са мной кантакту. Не хочуць падзяліцца сваімі архіўнымі матэрыяламі, таму ад пачатку да канца мушу разлічваць на сябе. Яны — вялікія вучоныя — не ўспрымаюць мяне сур'ёзна, адносіны са звычайным рабочым ім не гонар.

### Яго лозунг

Без каранёў няма жыцця.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Зурын арыент

**Багонікі і Крушыняны называюць Мекай і Медынай польскіх татараў. Тут на мізарах спачываюць мусульмане з усёй краіны. І хаця аўтахтонаў, якія яшчэ засталіся ў названых мясцовасцях, можна палічыць на пальцах адной рукі, вёсачкі штогод наведваюць сотні турыстаў. Тыя, якія падарожнічаюць няз'езджанымі шляхамі, паглыбляюцца ў сапраўдную мясцовую культуру, хочуць пазнаць цікавых людзей і звычаі, павінны зайсці да Зуры Багдановіч з Багонікаў.**



Спадарыня Зура Багдановіч

— Калісьці тут усе хаты былі брыдкія, цяпер толькі мая такой засталася, — кажа Зура. — Няма каму яе рамантаваць. Толькі мы з мужам тут жывём.

Драўляны дом Зуры і Алі Багдановічаў вылучаецца сярод забудовы невялікіх Багонікаў. Уся вёска гэта некалькі хат. Аднак вуліцу залілі асфальтам і праклалі ходнікі з чырвонага польбруку. Усё для лепшага прыняцця турыстаў і радавітых падляшскіх татараў, якія выехалі ў гарады Польшчы. Бо гэта якраз Падляшша на працягу стагоддзяў было месцам татарскага пасялення.

— Татары жылі не толькі ў Крушынянах і Багоніках, — кажа Зура. — Сакольскія вёскі, такія як Малявічы, Драглі, Цюмічы, Лешчаны, Белагорка таксама былі нашыя.

Зура Багдановіч раней была экскурсаводам. Даводзілася ёй вадзіць турыстаў нават некалькі разоў на дзень. Цяпер, як тлумачыць, пастарэла, а абавязкі гіда пераняла другая асоба. Тым не менш, калі хтосьці папросіць, завядзе на мізар, раскажа пра гісторыю вёскі, прыпомніць мінулае.

Зуру ў хаце часта можна сустрэць пры падрыхтоўцы яды. Гэтым разам рабіла татарскі ласунак — калдуны. Сын меў прыехаць з Беластока. Зура зручна валкавала цеста, выцінаючы колцы шклянкай. Да кожнага накладала вялікую лыжку мяснога фаршу. Шматгадовая практыка давяла Зуру да такой дасканаласці, што кожны калдун быў акуратны.

— Рабіць калдуны навучыла мяне яшчэ святой памяці бабка Ясінская. Маці мая памерла, калі мне было шэсць гадзікаў, таму яна часта заходзіла і падказвала як тое-сёе зрабіць. Я і цяпер раблю паводле бабчыная навукі. Калдунік мусіць быць такі кругленькі, поўненькі і тады ён будзе смачны.

Кухня ў Зуры невялікая. Пад акном стол, якраз для дзвюх асоб. На каляровых шпалерах вісяць маляваныя ў кветкі дошкі, якія калісьці гаспадыня прывезла з Гародні. На печы сохне вязлізны кавалак шынкі.

— Мы, татары, любім добра паесці. Мяса — гэта для нас найлепшая яда. Зрэшты, відаць па нас! Мы так разумеем: каб мець сілу да якой-небудзь работы, трэба добра пераесці. Ну, вера нам забараняе есці свініну, але мы ўжо ямо.

Нельга падляшскіх мусульман назваць няверуючымі, аднак пераважная большасць з іх гэта этнічныя мусульмане ці людзі, якія з'яўляюцца мусульманамі па паходжанні. Адначасова яны занадта моцна не ўдзельнічаюць у жыцці сваёй супольнасці і найчасцей не прытрымліваюцца ўсіх строгіх правіл ісламу. Такія святкаванні як Усіх святых адзначаюць разам з каталікамі. Каляды таксама святкуюць з сем'ямі дзяцей, якія ажаніліся з іншаверцамі. Найважнейшыя іхнія святы, якія яшчэ адзначаюць, гэта Курбан-Байрам, Рамадан ці Ашура. На пытанне як сёлета сакольскія татары абышліся на Байраме без рытуальнага забою, Зурын твар распраменіўся так, што з-за яе ўсмешкі ўжо цалкам не было відаць вачэй. Па гэтай прычыне блудзіла рукой, шукаючы кухоннай дошкі, на якой меў спачыць чарговы калдун.



— Я ўжо спакойная. Мой мужык, калі яшчэ быў здаровы, забіў быка. У нашай веры гаворыцца, што такі бык можа правесці праз мост-царат тры душы да раю, а баран — адну. Той, хто прыносіць ахвяру, таксама ачышчаецца з грахоў. Была мужык забіў за сваю і маю душы. Дзеці хай клапоцяцца за сябе.

Важным фактарам, які ўплывае на пачуццё ідэнтычнасці татараў, з'яўляецца вера. На польскія землі татары прынеслі з сабой іслам, аднак ужо ў шаснаццатым і сямнаццатым стагоддзях страцілі сваю мову і многія традыцыі. Усе мусульмане Сакольшчыны асімілявaліся з мясцовым насельніцтвам, таму сёння большасць з іх, так як Зура, карыстаецца беларускай мовай як сваёй роднай.

Аднастайнасці і нуды не толькі ў Зурынай хаце, але і ў жыцці, няма. Суседкі, турысты, мусульманскія святары — з якімі Зура размаўляе па-беларуску, бо, як гаворыць, „з яе не трэба нікога ўдаваць і кожны можа размаўляць аб чым хоча і як хоча" — часта заглядаюць у невялікую хатку пры мячэці. Зура прымае гасцей у пакойчыку, дзе на сцяне вісяць каляровыя дываны. Ложкі засланыя квяцістымі капамі, а люстра, у якім Зура папраўляе прычоску да здымка, абвешаныя чырвонымі каралямі з мясцовых базараў. На сцяне, апрача арабскіх надпісаў, вісіць абраз святога Алі. Папрасіўшы, каб Зура зрабіла пераклад надпісаў, пачулася марнытанне па-арабску і зараз пераклад па-беларуску: „Няма бога апрача Алаха". Зурыны вочы зноў схаваліся за ўсмешкай, бо чытаць па-арабску даўно ўжо сакольскія татары не ўмеюць, але гэта не мае ўжо значэння — пакой трэба пакінуць. Набліжаецца 17 гадзіна — Алі прыйшоў паглядзець „Тэлеэкспрэс".

Каб па-сапраўднаму даведацца пра спецыфіку Сакольшчыны, трэба дакрануцца да ісціны. Натуральным носьбітам татарскай культуры і беларускай мовы, якую татары пачалі выкарыстоўваць, асімілюючыся, напэўна з'яўляецца Зура Багдановіч. Яна не мусіць нічога рэканструяваць, прыкідвацца ці выдумоўваць (толькі для жарту). Не прыхарошвае гісторый, каб тыя здаваліся больш прывабнымі. Бо жыццё Зуры і яе погляды на рэчаіснасць ад ідыліі далёкія. Дзякуючы таму, можна захапляцца татарамі Сакольшчыны і іхняй культурай не толькі з-за расказаў пра салодкія перакачэўнікі і рахманых коней. Бо гэта мы, як кажа Зура, „нанова ствараем сваю тоеснасць". Кожнае пакаленне робіць гэта па-свойму, для сябе. Таму не варта кальказаць мінуўшчыны, бо з таго атрымлівaецца мёртвая, неаўтэнтычная, „цэпэлія". А ў Зуры ўсё жывое — колеры, расказы, мова...

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

## Сцеражыцеся ашуканцаў...

Мабільнікам я стаў карыстацца нядаўна, таму не надта разбіраюся ва ўсіх функцыях мабільнай тэлефоніі. І таму прыходзіцца расплачвацца за нявопытнасць.

Аб тым, што з рахунку майго мабільнага тэлефона знікаюць грошы я ўпершыню заўважыў у лістападзе мінулага года. Добра, што запісваю тэлефонныя размовы ў дамашнім дзённіку. Там усё чорным на белым запісана. 25 лістапада я меў на рахунку 7,23 зл. Калі хацеў патэлефанаваць, дык выявілася, што на рахунку няма ані граша. Не разумеў я ў чым справа. 10 снежня праз інтэрнэт папоўніў рахунак на 25 зл. Пасля першай размовы, якую правёў 16 снежня, тройчы — 17, 18 і 21 снежня рахунак мабільнага тэлефона зменшыўся на шэсць з грашамі злотых за кожным разам. У агульным ліку нейкія прайдзісветы такім чынам «зарабілі» на мне каля трыццаці злотых. Падобна было і ў студзені сёлета. 6 студзеня я чарговы раз папоўніў рахунак на 30 зл. І пачаліся махлярствы. Зараз пасля папаўнення рахунку двойчы — 6 і 7 студзеня — забралі ў мяне па шэсць злотых. Папрасіў я дачку высветліць справу ў беластоцкім філіяле апаратара «Оранж». І вылезла шыла з мяшка.

— Вашаму тату забіралі грошы за пасланыя «прамацыйныя» эсэмэскі, — патлумачыла працаўніца мабільнай тэлефоніі і дэталёва распавяла, якімі хітрыкамі карыстаюцца несумленныя працаўнікі рэкламных фірм. Маёй неразважнасцю было падаваць нумар мабільніка ў час «бясплатнага» рэкламнага апытання наконт нейкіх прадуктаў. Гэта дазволіла фірме пасылаць мне прамацыйныя эсэмэскі, якія непрачытанымі выкідаў я з паштовай скрыні тэлефона. Мая дачка толькі цяпер уцяміла, што такія эсэмэскі атрымлівала яна і яе дзеткі. Працаўніца апаратара параіла залажыць «блакаду» ў тэлефоне і такім чынам не прымаць незапатрабаваныя эсэмэскі.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Дэмаграфія Кляшчэлеўскай гміны

У 2010-2012 гадах колькасць жыхароў Кляшчэлеўскай гміны зменшылася на 95 чалавек. Зараз у гміне пражывае каля 2 700 асоб. У 2010 г. гміна налічвала 2 889 чалвек, а ў 2012 годзе — 2 794. Палавіна ўсяго гміннага насельніцтва пражывае ў Кляшчэлях.

У 2012 г. горад Кляшчэлі налічваў 1 396 жыхароў (у 2010 г. — 1 442). Лік гараджан хутка змяншаецца. Толькі ў найбольшай вёсцы Дабрывадзе лік павялічыўся з 222 чалавек на 236. Усе іншыя абязлюджваюцца. У 2010 г. у Дашах былі 252 жыхары і праз два гады лік паменшыўся на 241, у Палічнай з 162 на 155, у Сухавольцах з 144 на 130, у Саках з 135 на 133, у Тапарках з 117 на 110, у Залешанах з 67 на 60, у Курашаве з 60 на 55 і ў Грузцы з 56 на 53.

У Кляшчэлеўскай гміне чатырнаццаць салэцтваў. Зараз у найменшай вёсачцы Косная пражываюць тры асобы. У 2000 г. было чатыры.

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# Усе разам спявалі калядкі






Традыцыяй Комлексу школ у Міхалове сталі «Яслі», якія штогод гатовяць вучні з настаўнікамі. У гэтым годзе мы святкавалі 17 снежня. Упрыгожаная зала ўсіх вучняў, настаўнікаў, бацькоў, бургамістра і ксяндзоў прывітала святочна-сямейным настроем.

Вучні-акцёры паказаліся найлепш як маглі. Нашы яслі пачаліся ў магазіне, дзе паказана было як выглядае поспех нашых часоў... Потым яслі перавяліся ў сямейныя абставіны, у якіх маці, бацька і дзеткі гатовілі куццю, а старэнькая бабуля расказала як людзі чакалі Ісуса Хрыста. Сцэнка, у якой ішла гаворка пра нараджэнне Сына Божага, адбылася на беларускай мове. Вучні паказалі першы канфлікт Ісуса з Ірадам. Выступленне дзяцей узрушыла ўсіх гледачоў, якія разам з нашымі артыстамі спявалі калядкі па-беларуску і па-польску! Усе вучні згодна кажуць, што беларуская частка яслі гэта сапраўдная частка міхалоўскай культуры.

**Фота і тэкст вучняў і настаўніцы ў Міхалове**

# Кніжка пра тое як зачасаць агрэсію!




— Машыны часта нічога не разумеюць, — кажа Віта — дзяўчынка, якая малюе крэскі на дарогах. Міма яе імчаць у шалёным спеху машыны, яны не бачаць хлопчыка, які хоча перайсці вуліцу. Віта хоча яму дапамагчы. Яна рашае намаляваць пешаходны пераход. І тут успыхвае авантура з агрэсіўнымі машынамі. Віта не адна ў сваім жаданні дапамагчы хлопчыку. З дапамогай з'яўляцца два чалавечкі: чырвоны і зялёны, што жывуць у яе банцы на галаве. Іх задумы настолькі дзіўныя, што застаўляюць не толькі спыніць агрэсіўны паток машын. Пасля адна нечаканасць гоніць наступную нечаканасць...

Гэта адна са шматлікіх «сцежак» аповеду ў кнізе шведскай дзіцячай пісьменніцы і мастачкі Сары Лундберг пад загалоўкам «Віта Белая Крэска». Разам са зместам прамаўляе свет фантастычных малюнкаў. Яны натхняюць на шматбаковае чытанне кніжкі. Дзякуючы ім, чытач разумее больш, чым разумее. Аказваецца, сіла дзіцячых мараў можа перамагчы вялікую агрэсію і бездапаможнасць. Кніжка спадабаецца чытачам у кожным узросце. Яна выдадзеная Саюзам беларускіх пісьменнікаў у 2014 годзе. Беларускі пераклад гэтай моднай у свеце дзіцячай кніжкі зрабіла Надзея Кандрусевіч. Для нашых чытачоў маем добрую навіну — кніжку «Віта Белая Крэска» можна выйграць у конкурсах «Зоркі».

ЗОРКА

# ХТО САМЫ МОЦНЫ?
## *(нанайская казка)*

Хлопчык Намека часта паўтараў сябрам:

— Я з вас усіх наймацнейшы!

Аднойчы дзеці каталіся на скаванай марозам рацэ. Намека грымнуў аб лёд і пабіў галаву. Сябры пачалі яго дапікаць:

— Бач, лёд перамог цябе. Значыць, не такі ты ўжо моцны!

Намека запытаў у ільду:

— Лёд, а ці ёсць нехта мацнейшы за цябе?

— Вядома, ёсць, — адказаў лёд. — Мацнейшае сонца. Калі яно запячэ, тады я растану...

Пайшлі хлопцы да сонца. Ішлі яны доўга ці коратка, аж прыйшлі на месца. Намека сказаў:

— Гэй, сонейка яснае! Лёд мяне збіў, а ты распускаеш яго ў ваду. Значыць, ты наймацнейшае на свеце!

Падумала сонца і кажа:

— Хмара за мяне мацнейшая. Калі яна нахлыне, дык мае прамяні не могуць прабіцца. Тады на зямлі сумна, пахмурна.

Пайшлі сябрукі да хмары. Яны ўскараскаліся на высокую гару, каб пагаварыць з хмарай.

— Як гэта ёсць? — пытае Намека ў хмары. — Мяне перамог лёд, лёд перамагло сонца, а ты перамагаеш сонца. Значыць, хмара самая моцная ў свеце?

Не паспела адказаць хмара, як развеяў яе вецер. Стала цеплыня і яснасць. Тады Намека запытаў у ветру:

— Паслухай, вецер. Лёд перамог мяне, яго перамагло сонца, сонца перамагла хмара, а ты расправіўся з хмарай. Значыць, ты з усіх нас наймацнейшы. А ці можаш ты здзьмухнуць гару з месца?

Як не стараўся вецер, гара стаяла на месцы.

— Значыць, гара за цябе мацнейшая! — сцвердзіў Намека.

Пайшлі хлопцы да гары, каб яе запытаць:

— Гара, гара! Скажы нам, ці гэта ты будзеш самая моцная ў свеце?

— Не, — адказала гара, дрэва за мяне мацнейшае. Яно расце на маёй спіне і распірае каранямі маё цела.

Пайшлі сябры да дрэва:

— Гэй, дрэва, — спытаў Намека, — хто наймацнейшы ў свеце? Сонца растапіла лёд, хмара закрыла сонца, вецер разагнаў хмару, гара не саступіла ветру, а ты ад сярэдзіны распіраеш гару. Значыць, ты, дрэва, наймацнейшае на свеце?

У адказ задаволенае дрэва толькі зашумела:

— Вядома — я!

— Гэта няпраўда, — абурыўся Намека. Ён узяў сякеру і ссек дрэва. І ўсе хлапчукі даведаліся хто наймацнейшы на свеце.

**(пераклад з рускай мовы Ганны КАНДРАЦЮК)**

## Загадкі з роднай хаткі

# Увага, конкурс!!! (№ 3-15)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 25 студзеня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**
На дварэ гарою,
а ў хаце —
вадою.
С...

**2.**
У якой пярыне
зайчык не прастыне?
Ля якой падушкі
ён пагрэе вушкі?
С...

(Данута Бічэль-Загнетава)

**3.**
Нырае ныралачка
з хвосцікам русалачка.
Ныраць перастане —
Трымай сукню, Таня!
І.....

(Н. А. Сторажава)

**Адказ на загадкі № 51-14: аблокі, рыба.**
**Узнагароды, кніжку «Віта Белая Крэска», выйграла Аляксандра Буслоўская з КШ № 3 у Гайнаўцы. Віншуем!**

# БЫЦЬ ЯК НАДЗЕЯ АРТЫМОВІЧ!





Ужо сямнаццаты раз прайшоў Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы „Дэбют”. Аказваецца, таленавітых вучняў, якія ствараюць на беларускай мове, з году ў год штораз больш. Сёлета ў мастацкіх спаборніцтвах удзельнічала каля 80 асоб. Урачыстае падвядзенне вынікаў адбылося ў беластоцкім клубе „Змена клімату”.

Тыя, якія думаюць, што найбольшай павагай сярод моладзі карыстаюцца зоркі з вокладак газет і тэлеэкранаў — памыляюцца! Моладзь, якую аб’ядноўваюць літаратурныя конкурсы „Нівы”, захапляецца мастацкім родным словам. Пішучы пабеларуску, могуць поўнасцю выказаць свае думкі, якія толькі на роднай мове гучаць пераканаўча. Як падкрэслівае лаўрэатка сёлетняга „Дэбюту” Наталля Васько, штуршком да першых спроб напісаць штонебудзь быў візіт Надзеі Артымовіч у яе школе.

— Я памятаю як да нас на заняткі была запрошана Надзея Артымовіч, — успамінае Наталька. — Я падумала тады, што хацела б пісаць так як яна.

Частка маладых творцаў шукае больш блізкіх аўтарытэтаў. Такім для Улі Марчук з’яўляецца яе родны брат Лукаш, які свайго часу быў лаўрэатам „Дэбюту”.

— Я, вядома, усе яго ныя вершы прачытала і падумала, што таксама дашлю свае тэксты на конкурс, — кажа Уля. — Мы ўсе пазней куплялі „Ніву”, каб пабачыць надрукаваныя вершы Лукаша.

Памятайма! Сама Надзея Артымовіч дэбютавала на старонках „Нівы” вершам „Ой ляцелі гусі”. Якраз з „Нівы” пачалася яе творчая дзейнасць. Магчыма цяпер у падобны спосаб пачынаецца дзейнасць Нателькі, Улі ці іншых дэбютантаў. У гэтым заключаецца сутнасць конкурсу, што кожны можа асмеліцца і даслаць нават надоўгі тэкст, каб пераканацца ці не дрэмле ў ім талент.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

*Наталля ВАСЬКО*
*Гімназія ў Нараўцы*

## *Мары малой дзяўчынкі*

*– Дачушка,якая твая мара?*
*„Я проста хацела б,*
*каб хтосьці пры мне быў,*
*каб хтосьці мяне паслухаў,*
*каб хтосьці за мной*
*як цень хадзіў.*

*Яшчэ хачу сабе,*
*каб усё ў жыцці добра ішло,*
*каб усім добра вялося,*
*каб усе цешыліся.*

*А так апрача таго,то хачу*
*зорачку з неба,*
*прынца на белым кані,*
*хатку з салодкага перніка.*
*Ну і яшчэ хачу*
*стаць каралевай свету,*
*мець прыгожае адзенне*
*і быць найпрыгажэйшай.*

*Маёй марай яшчэ ёсць,*
*каб войнаў не было,*
*каб усё задарма было,*
*каб усе сябе любілі.*

*А калі астанецца адно жаданне,*
*то хачу*
*дзесяць залатых рыбак,*
*пятнаццаць магічных джынаў,*
*цэлае неба знічак”.*

*Падумала малая,*
*а ў канцы сказала:*
*– Мамачка! Я хачу ката.*

# Магічны час

У той дзень мая мама *шыкуе* вячэру, але не такую звычайную як штодзень, яна магічная — святочная.

Божае Нараджэнне — час сям’і, толькі тады мы ўсе сустракаемся. Пры святочным стале сядзяць самыя дарагія майму сэрцу асобы: мама, бацька, бабуля, дзядуля і, вядома, сястра з братам.

На прыгожа накрытым стале стаяць боршч з баравікамі, агуркі проста з бочкі, кісель з аўсянай мукі, самыя святочныя прысмакі. Ды і той самы прыемны час гэтага магічнага вечара, пра які не можна тут не ўспомніць: візіт барадатага старога Дзеда Мароза з падаркамі.

І першы дзень свята таксама незвычайны. Божае Нараджэнне — гэта адзін момант ва ўсім доўгім годзе, калі можна калядаваць. І мы ўсёй сям’ёй таксама калядуем, наведваем нашых суседзяў з каляровай зоркай і ўсе супольна спяваем радасныя калядкі.

А потым бяседа... Салодкае... Тарты... Піроржнае... Тарты... Піроржнае... І зноў тарты.

**Вераніка Кардзюкевіч,**
**шосты клас НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку**

# Вершы Віктара Шведа

## Ці карысны бусел?

— Скажы ты нам, Зося, —
Настаўнік звярнуўся:
Ці карысць прыносіць
Нам цыбаты бусел?

— Бусел не бывае
Карысным стварэннем
Таму што стварае
Перанасяленне.

## У кінатэатры

У гарадскім кінатэатры
Святло ў зале згасла раптам.
На працягу паўгадзіны
Мучыла цемра нясьпынна.

Святло блiснула зноўку,
Было гледачам няёўка.
Паніка ўзнікла ў зале,
Многія ўжо спалі.

## Купляйце яйкі

Азвалася мама:
— Дарагі Валодзя,
Ці ведаеш, рэкламаў
Многа і ў прыродзе?

Курка-шахрайка
Кудахтае штодзень,
Калі зносіць яйка:
— Купляй іх, народзе.

## Кот у гасцініцы

Часам і кот прыпыніцца,
Каб крыху адпачыць.
У гарадской гасцініцы
Прыйшоў пакой прасіць.

Прыёмшчыца пытаецца:
— Скажы мне, дабрадзей,
Які пакой наймаецца —
З мышамі, ці без мышэй.

# Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

№ 3

Адказ на крыжаванку № 51:

Як, гадавік, што, рад, ладан, тып, карона, гранд, ты, каралі, не, гожы, крот, тога, адгадка. Чарот, арол, дар, прага, вар, ало, гід, кніжка, рад, цар, дотык, штаны, тона, но, бок, ветка.

Узнагароды, запісныя кніжкі і беларускія закладкі, выйгралі *Уля Марчук, Наталля Лукша, Патрыцыя Лаўнічук* з Нараўкі. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Park | Beksa | | | | | | |
| | | | Potok | | Syk | Ił | Arak / Żyłka | |
| | Ala | Masa | | Siła / Prąd | | | | |
| | Mo-tylek | | | | | | | |
| Śliz-gawka | | | | | | Jak | | |
| Gawron | Sok | | | | Jar | | | |
| | | | | Brat | | | | |

# Жыццё беларусаў

## у „Скарбах народнай мовы" Апанаса Цыхуна

У лістападзе мінулага года „Гарадзенскай бібліятэкай" выдадзена ў поўным аб'ёме кніга вядомага гарадзенскага краязнаўца, заслужанага настаўніка Беларусі Апанаса Пятровіча Цыхуна „Скарбы народнай мовы". Гэта слоўнік гаворкі жыхароў Гарадзеншчыны, памежнай з Польшчай і Літвой часткі Беларусі, дзе жывуць народы розныя па этнічным паходжанні і рэлігійных вераваннях. Аўтар слоўніка першыя лексічныя запісы зрабіў яшчэ ў 1939-1940 гадах, а пасля вайны шмат пахадзіў і паездзіў па Гарадзеншчыне, наведаў амаль усе населеныя пункты рэгіёна, усюды пільна прыслухоўваючыся да народнай гаворкі, і занатоўваў яе багацці ў свой паходны сшытак.

У 1993 г. Апанасу Пятровічу пашчасціла з вялікімі цяжкасцямі выдаць у скарочаным варыянце запісанае лексічнае багацце, але ў кніжку было ўключана трохі больш за палову ад сабранага. Прайшло шмат часу і з'явілася магчымасць выдаць яго поўнасцю. Працу А. Цыхуна народны пісьменнік Беларусі Ніл Гілевіч назваў „патрыятычным подзвігам настаўніка".

З вялікім задавальненнем я рыхтаваў машынапісны і рукапісны поўны варыянт кнігі да друку і перажываў радасць ад сустрэчы з моўным багаццем нашай Гарадзеншчыны. З назіраннямі і разважаннямі аб кнізе немагчыма не падзяліцца з чытачамі.

У слоўніку прадстаўлены не толькі каля 10 000 моўных пярлін, але і адлюстраваны многія бакі жыцця народа: яго мінулае і сучаснасць, жыццёвыя звычкі і гаспадарчы вопыт, сямейныя адносіны і выхаванне дзяцей, практыка народнай медыцыны і знахарства, забабоны, абрады, здаровая народная мараль, рэлігійныя вераванні і многае іншае. І ўсё гэта пададзена ў ёмкіх, трапных моўных выразах, часта — у прымаўках, выслоўях, прыпеўках. Няспешна прачытаўшы кнігу, мы не толькі ўзбагацімся ведамі народнага жыцця, але і задумаемся над тым, ці правільна мы жывем, паводзім сябе, працуем.

Добра ведаючы сялянскі побыт, аўтар слоўніка праз ілюстрацыйныя прыклады з жывой мовы паказвае шматлікія заняткі і клопаты вясковых жыхароў, ухваляе іх працавітасць, кемлівасць, ашчаднасць, здаровыя маральныя якасці. Клапатліваму гаспадару не трэба напамінаць пра яго абавязкі, кантраляваць час прыходу на працу. Аб такіх людзях у слоўніку чытаем:

— Чалавек ён неаспалы, яшчэ чэрці на кулачкі не сходзіліса, а ён ужэ нешто робіць.

— Пакуль снедаць, та мы з паўкапы жыта абмалоцім.

— Яшчэ ні адна птушка ні куркнула, а ён ужэ палетак абышоў, усё агледзеў.

У сельскага гаспадара мноства розных спраў і ў хаце, і за яе парогам, і ў полі: ад апрацоўкі зямлі і збору ўраджаю да пляцення кашоў, ад выхавання дзяцей да догляду жывёлы. І ўсё трэба паспець своечасова і якасна зрабіць, таму і гавораць:

— Гаспадарку вясці — не барадой трасці.

— У добрага гаспадара плуг на падворку ні валяецца.

— Не пакідай бочкі з вадой на марозі, а то дно можа выперці.

Працы заўсёды многа, толькі плёну — не вельмі, і пры любой уладзе селяніну жылося складана. Пра гэта і расказвалі сельскія жыхары: пра недахоп зямлі, прылад працы, дарагавізну, паўгалоднае жыццё:

— У нас такі быў загон, што як сабака сядзе, та хвост на чужым палетку ляжаў.

— Некалі бульбу ў воляк макалі і елі, а ціпер і с скваркамі ні хочуць.

— У нас больш сполкай абраблялі зямлю, бо мелі па адным кані, рэдко хто пару меў.

— Пружыноўку не кожны гаспадар меў, тулькі багатыя.




— Пры паляках газа дораго каштавала, ні кожны гаспадар мог купіць.

— Добро, што салому ў калхозі даюць, ні трэбо начамі ад стога цягаць.

Аб мінулым жыцці людская памяць захавала такія словы, як аканом, гайдук, саквастратар, газоўка, цэп, курная хата і шмат іншых, якія адышлі разам з гэтымі з'явамі. Працоўнаму чалавеку, гаспадару не даводзілася спадзявацца на дзяржаўную дабрачыннасць, ён разлічваў на свае сілы, на ўласныя ўменні, дасціпнасць, вынаходлівасць і займаўся ўсімі відамі працы. Лексіка кнігі дае нам магчымасць убачыць гэта. Яшчэ ў зімовую пару гаспадар уважліва назіраў за прыроднымі з'явамі, заўважаў прыкметы будучага добрага ці дрэннага ўраджаю:

— Калі зімой на дзераве суке гнуцца ад інею, та жыто будзя ядрона, ад каласоў гнуцца.

— Жабы ў лузі пачалі крумкаць — пара сеяць лён.

— Як каса ў свіні нiроўна, та і зіма будзе такая, ніроўная.

— Ужэ поўня наступіла — гурке трэбо сеяць, каб пустыя ні былі.

— Чым раней зяблене пачнеш, тым лягей зямля перапрэя.

Зімовыя думкі селяніна — пра будучую вясну. Яму трэба паклапаціцца пра абмалот і ачыстку зерня для пасеву, падрыхтаваць і давесці да ладу рабочы інвентар, дагледзець рабочую жывёлу. Падрыхтоўка да палявых работ — гэта прыемная, але цяжкая праца і патрабуе глядзець наперад, прадбачыць.

— Хто сваё поле троіць, той хлеб заўсёды нажом кроіць.

— Я з самаго лета пачынаю гараць узагон, каб зямля добро ўлежаласа.

— Як лубін прыгарэш, та жыто расце, як лес.

— На лянішча трэбо больш гною даваць, бо лён усё высмактаў, нішто расці ні будзя.

Часам гаспадар разлічвае не толькі на свае сілы, але і на старадаўнія традыцыі, спадзяецца на падтрымку таямнічых сіл. Таму перад важнейшымі палявымі работамі ён выконваў пэўныя рытуальныя дзеянні, каб выклікаць спагаду з боку гэтых сіл і атрымаць добры плён ад працы. Вось што мы чытаем пра падрыхтоўку гаспадара да засеўкаў (сяўбы):

— Перад засеўкамі гаспадар умываўсо, надзяваў чыстую кашулю, каб жыто было чыстае, еў кашу, каб жыто было густое, браў з сабой хлеб, які называлі засяваным.

— Таямнічыя сілы могуць як спрыяць поспехам у справах, так і шкодзіць, могуць псаваць пасевы, і сяляне імкнуліся нейтралізаваць іх шкодны ўплыў.

— Куклы (зблытаныя сцябліны раслін — аўт.) мы баяліса, выжыналі левай рукой і кідалі праз сібе, выносілі на дарогу.

— Залом сцяблоў жыта мы выжыналі левай рукой і тапілі ў рэчцы, каб бяды ні было.

Паўсядзённым клопатам селяніна быў догляд рабочай жывёлы, асабліва каня як апоры гаспадаркі. Патрэбна не толькі добрае кармленне жывёлы, але і іншы ўход, наладжаная збруя, уменне пры патрэбе падлячыць травамі ці загаворамі.

— Без сядзёлкі хутко ні паедзяш, аглоблі будуць бэнтацца і каня зашмуляяш.

— Як конь спацея, пакрывалі гункай, каб ні прастыў, вадэ халоднай ні давалі.

— Як конь здратуецца, та рану рамонкам прамывалі.

— Каб выратаваць каня ад дамавіка, трэбо застрэліць на ляту сароку і павесіць у хляве.

Мужык-гаспадар — майстар на ўсе рукі: ён і пчолы дагледзіць, і касу адаб'е, і воз наладзіць, і кошык спляце, і рыбы наловіць, і абутак адрамантуе, і вокны закітуе:

— Каб чвэклы (драўляныя цвічкі — аўт.) добро ішлі ў падошву, та я спачатку тыкаю іх у мыло і тады забіваю.

— Татко сам зрабіў снойніцу, ні ў каго такой ні было.

— Каса як брытва, траву аж ліжа.

— Вокна кітаваць трэбо, як яны сухія, а так кіт будзя адпадаць.

А колькі цікавых назіранняў, каштоўных парад змешчана ў кнізе аб утрыманні пчол, лоўлі рыбы! Мяркуйце самі:

— Як маладая матка, та і чарвене роўнае, акуратнае.

— Як старыя соты, та з іх зусім малыя пчолы выходзяць, нідужыя, мёду і сабе ні могуць нанасіць.

— Спрактыкаваны пчаляр заўсёды вабік мае (скрынка для заманьвання раёў).

— Як настаюць халады, так і пачынаюць пчолы выцягваць трутняў.

— Мотар возьмям і пачнем пляжыць па вадзе, так рыба і дае ў невад.

— На ручэйніка рыба добро бярэцца.

— Я гарох распарваю, ён робіцца мягкім, і добро лешч на яго клюе.

Аўтар кнігі добра ведаў не толькі мужчынскія абавязкі па гаспадарцы, але і жаночыя. Мы бачым жанчыну як нястомную працаўніцу ў полі і клапатлівую гаспадыню ў хаце, на плячах якой і праца на агародзе, і догляд жывёлы, і выхаванне дзяцей. У часы, калі фабрычная вытворчасць дрэнна забяспечвала чалавека адзеннем і не хапала грошай, гэты абавязак ускладваўся на жанчыну і заключаўся ў вырошчванні і апрацоўцы лёну і нарыхтоўцы воўны. Колькі працы ўкладвалася ў гэты занятак, колькі розных прылад і інструментаў патрэбна было мець, колькі часу і сіл укласці, каб вырашчаны і сабраны ў полі лён-траста ператварыўся спачатку ў валакно, пасля ў нітку, палатно і ўрэшце — у гатовае адзенне для ўсёй сям'і! І жанчына паўстае перад намі не простай працаўніцай, а стараннай майстрыхай за кроснамі, за вышываннем, шытвом, вязаннем, прыгатаваннем ежы і розных прысмакаў. Аўтар слоўніка аказаўся глыбокім знаўцам усіх тонкасцей вырошчвання лёну і тэхналогіі яго апрацоўкі, прадзення і ткацтва. Пра гэта сведчыць і лексіка: бердо, кросна, калаўротак, клоча, кругелькі, кужаль, ляска, маток, прасніца, панажэ, снойніца, трап'ачка, церніца, цэўка, чаўнык, чынаваціна і інш.:

— За вечар, бывало, скруткаў шэсць лёну начэшаш, як добрыя шчоткі.

— Снойніцу зняла, можно будзя навіваць кросна, мо да вялікадня ўпраўлюсо.

— Бусел клякоча, цаўке сукаць хоча.

— Як добро на панажэ наступіш, та і чынэ (часткі асновы — аўт.) большыя, і чаўнык добро праходзіць.

Сялянская сям'я арыентавалася на ўласны выраб рознага самаробнага палатна: з лёну — кужалю на бялізну, ручнікі, настольнікі; з авечай шэрсці і фабрычных нітак (гуровых) — на верхняе адзенне. Трэба яшчэ паспець на рынак і набыць патрэбную фарбу. Гаспадыня ведае, што добрыя гуровыя ніткі і лепшую фарбу можна купіць у Індуры, Скідзелі або Лунне і што тут працуюць добрыя фарбавальныя майстэрні; што ў Ляхнове і Адэльску „надто файно" ўмеюць вышываць. І патрэбнае — набывае, а ўменню — вучыцца. А як эканомная гаспадыня, яна сама перастроіць каптанік, сарочку, нагавіцы, спаднічку з аднаго дзіцяці на другое.

Як сведчаць ілюстрацыйныя падборкі, важнае значэнне ў сям'і надавалася выхаванню здаровай маралі: добразычлівасці, павагі да старэйшых, сціпласці ў паводзінах; асуджаліся крадзеж, ілжывасць, грубасць, распушчанасць. Хаця гэтыя павучанні фарміраваліся многімі дзесяцігоддзямі, але мудра гучаць і ў наш час:

— Трэбо ўзірацца, як старэйшыя людзі робяць, вучыцца ў іх.

— Ляпей папрасі ў чалавека, а ні ўкрадкам бярэш, так нідобро.

— Даў свайму хлопцу фэфару, будзя знаць, як на дзеда бзыкаць.

— Дасі дзецям волю — сам пападзеш у няволю.

Народная мараль падтрымлівала сярод людзей узаемную дапамогу, спачуванне, працавітасць і негатыўна ставілася да заганных паводзін.

— Век здатно ні праходзіш і смашно ні пераясі.

— Гэтай лярві адно ў галаве: смашно паесці і добро пагуляць.

— Я калі ўлегцы еду, та кожнаго чалавека па дарозі падвязу, бо грэх ні падвязці.

— Хоць ні ўежно, але ўлежно.

— У ліхого чалавека і бусел вясціса не будзя.

А чаго вартыя трапныя народныя ацэнкі характару і паводзін чалавека, якія часам прыстаюць да яго на ўсё жыццё: абамберыць, валацэнга, каўмыга, кудла, лярва, хруля, цадзілко, уканталежыць, пляжыць, шлэндаць і многае іншае.

Нашы землякі здольныя і да працы, і да танца па прымаўцы: і швец, і жнец, і на дудзе ігрэц. Аб разнастайных іх талентах сведчаць і шматлікія прыказкі, песні, прыпеўкі, загадкі, трапныя выразы, якія прыводзяцца ў „Скарбах". Вось некалькі ўзораў народнай творчасці:

— У гародзі на мяжы / Тры кусточкі мяты. / А хто дзеўку пацалуе, / Той будзе багаты.

— Пайсці замуж — трэбо знаць: / Позно легчы, рано ўстаць.

— У лазе на адной назе стаіць грыб. Што гэта такое?

А як іскрыцца народная мудрасць, вобразнасць у наступных выразах:

— За добрым гаспадаром і свінка — гаспадынька.

— Паабедаў, а жывот і ні ведаў.

— Хлопяц даволі вытанчаны: з ім і сабакі ні збрэшуцца.

— Каб ты з пугай пайшоў.

— Голы разбою ні баіцца.

— Пашоў у пустапаш.

— Куралём усё ляціць.

— Жаба цыцкі дасць.

— Шлюб пад плотам, а вяселе потым.

— Вышмыгалі хату — хоць ваўкоў ганяй.

— Накрыў — хоць сакеру вешай.

Жыхары Гродзеншчыны розняцца нацыянальнай прыналежнасцю, рэлігійным веравызнаннем, але спагадліва адносяцца адны да другіх. Стагоддзямі жывуць у добрым суседстве беларусы, палякі, татары, яўрэі, рускія, літоўцы; сумесна працуюць і адпачываюць, заключаюць змешаныя шлюбы. Такое суседства дабратворна адбіваецца на культуры гэтых этнасаў, узаемна ўзбагачае лексіку кожнага з іх. У гаворку Гродзеншчыны, да прыкладу, уліліся словы і выразы з польскай мовы: велькі, дзісь, імша, кедысь, мешкаць, мондры, натыхмяст, панна млода, следзі, пекны, тэрас, файны і інш.; з яўрэйскай: кучкі, маца, пэйсах, пурын, талмуд, хала, хапун, цымас, шабас, ярмолка; з рускай мовы: вочарадзь, гвоздзі, пахароны, свідзецель, столькі, сплетні, утрата, часы (гадзіннік) і іншыя, не гаворачы аб „трасянцы"; з татарскай мовы прыйшлі курбан-байрам, рамазан, сабах, шайтан і г.д. Узятыя з іншых моў, адаптаваныя, яны характарызуюць гаворку заходняга рэгіёна Гродзенскай вобласці і з'яўляюцца нашым агульным скарбам.

Цяжка пераказаць шырокае кола заняткаў, клопатаў, стасункаў нашых землякоў, якія трапнай народнай мовай занатаваны ў „Скарбах народнай мовы". Убачыць, адчуць усё гэта можна, прачытаўшы непасрэдна сам слоўнік.

**Іван БУДНІК**
**укладальнік кнігі**

# З Усходу на Захад

**Паміж парафіяльнымі вёскамі Вышкі і Тапчэва, што на захадзе Бельскага павета, распаложаны невялічкі засценак Будлева. Да яго ад асфальтоўкі паміж раней названымі сёламі навюсенькая паўкіламетровая асфальтовачка. Будлева зусім някідкае, на тапаграфічнай карце невялічкае, аднак гэта мясцовасць з даволі цікавым мінулым.**




Партал Вышкаўскай гміны: „Budlewo wymieniane jest w spisie pospolitego ruszenia z 1528 roku pod taką samą nazwą jak współcześnie. Wśród okolicznych wsi drobnoszlacheckich wyróżniało się ówcześnie zamożnością i wielkością. Mieszkali tu rycerze o przydomkach *Bohuszewicz, Gotartik, Petrowicz, Bugay, Michayłowicz*. Niektórzy mieli przydomki brzmiące jak rusińskie, jednak była to szlachta polska. W początkach XVI wieku mieszkali jeszcze na Litwie, gdzie językiem urzędowym był ruski i polskie nazwiska, czy przydomki były przekręcane na ruskie. Miejscowa szlachta w 1528 roku wystawiła na pospolite ruszenie czterech konnych jeźdźców. Miejscowa szlachta od nazwy wsi przyjęła nazwisko Budlewski".

Значыць, як хвацка паведамляе гмінны партал, празвішчы мясцовай шляхты колішнія чыноўнікі назвалі па-руску, аднак сам народ запісаўся па-польску. Але далей той жа гмінны партал весціць наступнае: „W pierwszej połowie XIX wieku władze carskie wprowadziły urzędy, których zadaniem była weryfikacja licznej polskiej szlachty. Każdy szlachcic, który chciał mieć poświadczenie o swoim pochodzeniu, musiał się zgłosić do urzędu i przedłożyć dokumenty świadczące o swoich rycerskich korzeniach. Budlewscy, ten mało znany ród szlachecki, zdołali na początku XIX wieku udowodnić swoje prawa szlacheckie. Antoni syn Ignacego zapisał się do ksiąg guberni mińskiej w 1802 roku. Natomiast Paweł i jego synowie: Leon z synami Józefem i Maciejem, Jan z synami Józefem i Pawłem, Franciszek z synami Andrzejem, Michałem i Janem, Wojciech z synem Andrzejem oraz Jakub syn Szymona zostali wpisani w 1804 roku do spisu szlachty guberni grodzieńskiej". Вось такая там *szlachta polska*, якая *od nazwy wsi przyjęła nazwisko Budlewski*.

Яшчэ крыху этымалогіі; партал: „Nazwa Budlewo jest jedyna w Polsce. Według językoznawców może pochodzić od imienia Budzisław lub od prasłowiańskiego słowa bydlo — miejsce pobytu, zamieszkania". Сапраўды, выдатны польскі мовазнаўца Аляксандр Бруднер пісаў: „Urobienia *bydlić, bydlący, bydlenie, bydliciel*, stałe w psałterzach i biblji, 'mieszkać', 'mieszkanie', 'obywatel'; podobnie w pieśniach nabożnych 15. wieku: 'daj mi z tobą *bydlić*', 'racz nas darować niebieskim *bydlenim*'. Od 'bytu', 'mieszkania' przeszło *bydło* na 'własność', 'posiadanie', a wyłącznie już u nas najpospolitszą miarę własności, na 'żywy inwentarz rogaty'".

У Будлева мяне прыцягнула не цікавасць да тамашняй этымалогіі. Яшчэ раз гмінны партал: „Oprócz Budlewskich mieszkały tu również inne rody drobnoszlacheckie, wśród nich Falkowscy herbu Doliwa. W 1775 roku w rodzinie Walentego Falkowskiego i Teresy z Kuleszów urodził się Jakub Falkowski. Jego rodzina była biedna, borykała się z licznymi problemami materialnymi. Jedyną możliwością [awansu] często było tylko wstąpienie do zakonu lub pójście do seminarium. Młodego, zapewne zdolnego, Jakuba Falkowskiego wysłano w wieku 7 lat do szkoły zakonnej w Siemiatyczach". Далей Якуб Фалькоўскі вучыцца ў Драгічыне і ў 1800 годзе становіцца святаром. Касцельная энцыклапедыя: „Pierwsze kazanie, jakie miał przybywszy do rodziców, w topczewskim kościele, było tak przejęte duchem miłości chrześcijańskiej, iż nieprzyjaciela ojca młodego kaznodziei skłoniło do publicznego przeproszenia i do nagrodzenia tych wszystkich przykrości, jakich możny sąsiad względem biednego zagrodowca poprzednio się dopuszczał". Аднак Якуба Фалькоўскага цягне да навучання, навучае ён у Драгічыне, Ломжы, Шчучыне. У апошняй мясцовасці знаёміцца з глуханямым хлопчыкам і гэта вырашае пра далейшы напрамак яго жыццёвых зацікаўленняў — навучанне глуханямых дзяцей. Тады нашы землі знаходзіліся пад прускім панаваннем і прускія ўлады накіравалі дапытлівага маладога ксяндза ў Берлін, дзе ён знаёміцца з вопытам нямецкіх педагогаў.




Фрагмент каплічкі ў Будлеве

Дарэчы, крыху раней на захадзе Еўропы, ды і не толькі, пачалося зацікаўленне здаровых людзей светам тых, у каго былі абмежаваныя камунікацыйныя магчымасці. Бо глуханямыя камунікаваліся з сабою жэстамі, аднак іхняя камунікацыя абмяжоўвалася адно да іхняга бытавога свету. І вось у эпоху Асветніцтва некаторыя мысліцелі сталі задумоўвацца пра ўвядзенне глуханямых у больш шырокі свет. Напрыклад, у Іспаніі ксёндз Хуан Банэт у пачатку 1600-х гадоў заняўся адукацыяй глуханямых дзяцей тамашніх вяльможаў дзеля стварэння ім магчымасці наследавання бацькоўскіх маёмасцей; іспанскі закон дазваляў на гэта толькі адукаваным. Дарэчы, законы па-рознаму ставіліся да глуханямых, напрыклад законы старажытнасці не прадбачвалі глуханямым ніякіх правоў. Падобна было і ў бальшавікоў, дзе Сталін лічыў глуханямых ненармальнымі людзьмі і ў адным з маскоўскіх паркаў у 1929 годзе вісела паведамленне „Глухонемые и слепые не принимаются". У гітлераўцаў пачалася стэрылізацыя калекіх людзей — праведзена было каля чатырохсот тысяч іх кастрацый, у тым ліку пацярпела і каля чатырох тысяч глуханямых; такі ж лёс прадбачваўся гітлераўцамі і іншым меншасцям, у тым ліку і славянам...

У агульнасці, першымі праблемай прыстасавання глуханямых да акружаючага свету зацікавіліся, так як і Якуб Фалькоўскі, ксяндзы. Для прыкладу, адзін з першых французскіх ініцыятараў навучання глуханямых грамаце, ксёндз Шарль Мішэль дэ л'Эпе ў 18-м стагоддзі хваляваўся, што глуханямыя павінны мець доступ да сакрамантаў дзеля мінавання патойбаковага пекла. Магчыма, што з такіх жа меркаванняў выходзіў і ксёндз Якуб Фалькоўскі.

Калі я заглянуў у Будлева, маю ўвагу прыцягнула высокая каплічка, якая стаяла быццам на канцы вёсачкі з боку Тапчэва. Калі я прыглядаўся да той святыні, з недалёкай хаты выйшаў да мяне пажылы чалавек, мабыць пацікавіцца рэдкім госцем у ягонай вёсцы. Пра Якуба Фалькоўскага ён, вядома, ведаў. Але на маё пытанне, дзе была сядзіба ягонай сям'і, ён ужо адказаць не змог. З той пары, калі Якуб Фалькоўскі пакінуў наша старонне, мінае ўжо дзве соткі гадоў. У 1817 годзе яго клічуць у Варшаву, дзе ён засноўвае інстытут навучання глуханямых.

У выніку напалеонаўскіх войнаў узнікае Каралеўства Польскае, якога каралём становіцца расійскі цар Аляксандр І. Дзеля прывітання гэтага, бадай адзінага паланафільскага, цара тагачасныя варшаўскія ўлады рашылі пабудаваць трыумфальную арку. Аднак сам цар палічыў гэта непатрэбшчынай і запрапанаваў заміж трыумфальнай аркі пабудаваць касцёл. Так і сталася — касцёл быў пабудаваны ў 1818-1825 гадах, а яго нябесным заступнікам быў абраны святы Аляксандр. У 1820 годзе пры будаваным касцёле паўстае парафія святога Аляксандра, а яе першым пробашчам назначаюць ксяндза Якуба Фалькоўскага.

Ксёндз Фалькоўскі не пакінуў пры такой нагодзе сваіх глуханямых падапечных — ягоная парафія становіцца тым фундаментам, на якім ён разбудоўвае сваю шляхетную справу. Зараз пасля завяршэння будовы касцёла, у 1826-1827 гадах побач яго, на варшаўскай плошчы Трох Крыжоў узводзіцца будынак Інстытута глуханямых; гэты інстытут працуе там па сённяшні дзень. А ў катакомбах касцёла пахавана ў 1848 годзе і яго першага пробашча Якуба Фалькоўскага, родам з Будлева, якога продкі, так як і суседзі Будлеўскія, маглі выводзіцца з гістарычнай Наваградчыны...

Варта яшчэ вярнуцца да святога Аляксандра, якога заступніцтву быў прысвечаны вышэйзгаданы касцёл. Святых Аляксандраў шмат, аднак каторы з іх з'яўляецца заступнікам варшаўскага касцёла, парафіяльны партал не падае. Іншы партал, менш афіцыйны, падказвае, што з'яўляецца ім папа Аляксандр І. Каляндар праваслаўнага партала azbyka.ru: „Священномученик Александр, папа Римский, занимал папский престол в течение 10 лет. Он был заживо сожжен 3 мая 119 года по повелению императора Адриана (117-138)". Аднак іншыя даведнікі выносяць здагадкі, быццам папа Аляксандр І мог быць пераблытаны з іншымі мучанікамі; Вікіпедыя: „Do końca IX w. błędnie utożsamiano go z inną postacią świętego — męczennika Aleksandra zamordowanego ok. roku 130 na Via Nomentana 3 maja". Партал Праваслаўная энцыклапедыя pravenc.ru: „Сообщения Liber Pontificalis и Acta Alexandri о мученичестве Александра (отсечение головы) вместе с Евентием и Феодулом при рим. имп. Траяне или Адриане не подтверждаются св. Иринеем и Евсевием Кесарийским и основываются, возможно, на идентификации его с мч. Александром Римским (пам. 3 мая), пострадавшим вместе с Евентием и Феодулом при имп. Марке Аврелии и погребенным в Риме на Via Nomentana". Таму, мабыць, і нямы наконт свайго нябеснага заступніка афіцыйны партал варшаўскай парафіі.

Папа Аляксандр І правіў рымскім Касцёлам у пачатку другога стагоддзя. Вікіпедыя: „Aleksander I (ur. w Rzymie, zm. ok. 116) — święty Kościoła katolickiego i Cerkwi prawosławnej, papież władający diecezją rzymską w latach ok. 109 do ok. 116. Wprowadził użytek wody święconej w Kościele. Przypisuje mu się też wprowadzenie obowiązku przebywania w świątyni bez nakrycia głowy dla mężczyzn". Аднак асвячэнне вадой фіксуецца ў Касцёле толькі з чацвёртага стагоддзя, а дакумент пра дачыненне да яе папы Аляксандра І аказаўся апокрыфам.

Ды і з самой свянцонай вадой справа не нада адназначная. У прынцыпе мела яна мець гаючыя ўласцівасці, адганяючы ўсялякіх нячысцікаў. Але вось у час апошняй успышкі эпідэміі свінскага грыпу святары міланскага кафедральнага касцёла асушылі ваду ва ўваходнай крапільніцы, сыходзячы з гігіенічнай асцярожнасці. Як жа тады ўваходзячым у храм вернікам традыцыйна перажагнацца, абмакваючы пальцы ў свянцонай вадзе? Адказ на гэта даў тэхнічны прагрэс: вось адзін з італьянскіх прадпрымальнікаў прыдумаў электронны дазіравальнік свянцонай вады з фотасэнсарам, які апырсквае падсунутую пад яго руку стэрыльнай свянцонай вадзічкай.

Як бы там не было, вера ў ачышчальныя ўласцівасці вады была рымскімі хрысціянамі перанята з Усходу. Так як насельнікі Будлева прывандравалі вераграда таксама з Усходу. Так як з Усходу віфліемскія тры цары...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

Кулінарныя вандроўкі ў часе і прасторы

# Каляды беларускіх сялян



Запрашаю на XIX-вечныя каляды. У падшудзяляўскія вёскі адпраўляемся без білета, павозкай кампаніі Аб'яднанне ў карысць захавання культурнай спадчыны Сакольшчыны „Сакольшчына". На палубе вітаюць вас галоўнакамандуючыя Андрэй Гарбуз і Радаслаў Тумель. Карыстаемся незвычайнай нагодай, каб пазнаёміцца з „Вобразам сакольскай вёскі палавіны XIX стагоддзя ў рукапісе Адама Буцькевіча".

... Божае Нараджэнне — важная падзея ў жыцці сялян. У Польшчы гэтаму святу прыдавалася зусім іншае значэнне. Тады заключаліся дагаворы сялян, шукаючых службы парабкаў, дворскіх конюхаў і таму на свята Шчапана (26 снежня) адгукаўся чалавекпан — бо, якраз у той дзень канчаўся тэрмін дагавору. Але на Беларусі святу, апрача рэлігійнага зместу, іншыя абставіны прыдавалі дадатковае значэнне. Божае Нараджэнне было яшчэ часам жаніцьбы. У час калядных святкаванняў з'язджаюцца сваты да дарослых дзяўчат. Калі ёсць малады жаніх, сваты наведваюць бацькоў нагледжанай на сынавую дзяўчыны. Звычайна на Божае Нараджэнне маецца запас мяса, ёсць крэдыт у шынкара на гарэлку — у такі час запас пачастунку большы.

Перад надыходам калядных святаў бацька дзяцей, будучых маладажонаў, спярша ідзе ў двор і тут альбо непасрэдна з самым панам, альбо праз пасрэдніцтва аканома робіць прапанову вянчання дарослых дзяцей і прадстаўляе асоб, з якімі плануюць спалучыцца. Знаёміць ён са сваёй перспектывай адносна прыбаўлення рабочай сілы — гэта ж асноўныя для пана ўмовы, каб прыняць прапанаваныя бацькамі планы. Адбываецца доўгая нарада. Беларускія сяляне вылучаюцца халоднай разважлівасцю і, уладаючы сялянскім практычным розумам, яны ў змозе кожную сваю справу карысна для сябе абгрунтаваць. Найчасцей, пасля доўгіх нарадаў, селянін атрымлівае ўжо канчатковае ў гэтай справе рашэнне, з якім вяртаецца да жонкі, і толькі тады адбываецца хатняя нарада, як тую справу ўладзіць, як нарыхтаваць пачастунак. Гаспадар думае цяпер як прадаць зерне, як пра святочны перш-наперш вясельны напітак дамовіцца з яўрэем. Гаспадыня нясе на торг яйкі, курку, калі ёсць палатно, ніткі альбо сам лён на пражу і продаж — усё на плату ксяндзу і арганісту.

Напярэдадні Вігіліі гаспадар ехаў у мястэчка і купляў некалькі селядцоў і трохі дробнай рыбкі званай стынкай. У наваколлі маёнтка Зубоўшчына каля Бабікаў у малых мястэчках прадавалі дробную рыбку, багата лоўленую ў аўгустоўскіх азёрах. Мае яна свае перавагі — яна вельмі танная, 5 грошаў за кварту. Сушаную можна трымаць цэлы год. З азёр дастаўлялі яе ў бочках зімовай парой. Могуць яе спажываць дзеткі, таму што яна амаль пазбаўлена касцей. Апрача рыбкі гаспадар купляў дастатковую колькасць солі.

Цягам цэлага адвэнту не толькі старыя, але і дзеці трымаюць дакладны пост, не вылучаючы нядзелі. У дзень Вігіліі Божага Нараджэння гаспадыня думае пра падрыхтоўку вячэры, якую сяляне называюць куццёй (гэта таксама традыцыйная вігілійная страва, рыхтаваная з варанай пшаніцы, круп ці рысу і цёртага маку з мёдам і бакалеямі).

Спярша, чым расказаць пра харч спакон вякоў распаўсюджаны на Беларусі ва ўсіх грамадскіх праслойках каталікоў, Адам Буцькевіч знаёміць з урачыстасцю, называнай каляндой. Гэты касцельны цырыманіял асабліва важны для дзяцей, а праводжаны паводле даўняга парадку ў пастырскім духу з'яўляецца карысным для веры, таму што стварае пастыру нагоду знаёмства з клопатам бацькоў пра выхаванне дзяцей, клопатам пра чысціню і заможнасць хатніх прылад, лыжак, місак, гаршкоў, пасцелі на ложках і т.д. У час адвэнту на багаслужбе ў касцёле сялян інфармуюць, калі пробашч прыедзе ў вёску з каляндой. Чакаюць гэтага візіту, дзеткі паўтараюць катэхізм, парадкуюць вуліцу, дзядзінцы, сені, хатнія пакоі. Адзяваюць дзяцей у свежую бялізну і самі апранаюцца па-святочнаму. Рыхтуюць ахвяру, значыць каляду пастыру: яйкі, бохан хлеба, часам курку, сырок, а для арганіста — крупы, паўгаршка панцаку і крыху гароху. Чакаючы грамадна пастыра, яго прыбыццё сяляне вітаюць зняўшы шапкі і пакланіўшыся. Пробашч ідзе з хаты да хаты, папярэджаны арганістам са званком, крапілам і кацялком з асвячонай вадой у руках. За ўваходам у пакой цалуюць рукі ксяндзу, а калі той свенціць пакой, усе кленчаць і схіляюць галовы, на заклік пастыра „Няхай будзе пахвалёны Езус Хрыстус" адказваюць „На вякі вякоў, амін". Святар гаворыць малітву, а затым кліча дзетвару і экзаменуе з катэхізму. Адэкватна да прадстаўленай умеласці альбо хваліць, альбо дакарае, і робіць заўвагі не толькі дзеткам, але таксама маці.

Беларуская шляхта вігілію называе віліяй, сяляне — куццёй. Стравы абавязковыя на куццю такія: з аўсянай мукі залітай цёплай вадой робяць кісель, такую кіславатую вадкасць, гушчыня вадкасці залежыць ад густу. Такую паўвадкую страву беларускія сяляне называюць журам. Спажываюць яго з хлебам. Чарговай стравай гэтай вячэры з'яўляецца квашаная капуста густа звараная з сушанымі грыбамі, селядцом альбо стынкай. Трэцяя страва — панцак — ячмень тоўчаны і пазбаўлены лускі. Уласна гэта каша з селядцом. Чацвёртая — гарох густа звараны, таксама прыпраўлены селядцом. Некаторыя вараць моркву альбо бручку з бульбай; густа звараную прыпраўляюць селядцом. Цэлы дзень нічога не бяруць у рот, так дарослыя, як і дзеткі. Увечары амаль перад поўначчу, пасля забеспячэння жывога інвентара, усе садзяцца за стол. Гаспадар і гаспадыня ломяць аплатку, дзеляцца з усімі, перадаюць сабе пажаданні ў вельмі простых, беларускіх словах: „у меншых грахах, а ў большых пацехах".

**Іаанна ЧАБАН**

У тэксце выкарыстаны фрагмент кнігі **„Obraz wsi sokólskiej połowy XIX wieku w rękopisie Adama Bućkiewicza" (red. Andrzej Garbuz, Radosław Tumiel, Sokółka 2011, s. 75-77)** і ілюстрацыя, якая прадастаўляе інтэр'ер беларускай хаты Гродзеншчыны на нямецкай паштоўцы з 1918 года.




Для тых, хто больш-менш абазнаны ў справах беларускай палітыкі, імя Зміцера Дашкевіча добра вядомае. Ён лідар Маладога фронту, палітвязень, які па выхадзе з калоніі напісаў і выдаў кнігу „Чарвяк". Але сёння цікава пазнаёміцца са Зміцерам Дашкевічам як чалавекам майстравым, бо ён, акрамя палітычнай дзейнасці, займаецца цяслярствам. Даведацца пра гэта дапаможа ягоны сайт, дзе палітык прадстаўляе сваю цяслярскую дзейнасць — www.cesliary.by.

Адметна, што даны сайт зроблены на платформе Wordpress, якая дазваляе без асаблівых фінансавых выдаткаў стварыць сваю інтэрнэт-бачыну і прэзентаваць сябе цэламу свету. Таму сайт цяслярскай дзейнасці Зміцера Дашкевіча выглядае даволі проста, але прывабна. Акрамя назвы, у вочы адразу кідаецца слоган — „Мэбля з душою дрэва!", ну а карычневы колер, што выкарыстаны для аздаблення галоўнай старонкі, сапраўды стварае ўражанне „драўлянасці" вырабаў. Праўда, сучасная мэбля ўжо даўно робіцца са спрэсаваных апілкаў, а не з цалкавітых кавалкаў дрэва. Але ў мэблі ад Дашкевіча, згодна яго слогану, душа дрэва захавалася.

Пра тое, што менавіта вырабляе Зміцер Дашкевіч як цясляр, добра распавядаецца на большасці старонак сайта, і паўтараць гэтую рэкламу на старонках „Нівы" сэнсу няма. Значна больш цікавым падаецца ідэалогія палітыка-цесляра. Для гэтага варта зазірнуць на старонку „Пра нас", выйсце на якую знаходзіцца ўверсе цэлага выяўлення. „«Цесляры» — гэта людзі, што аб'ядналя любоўю да нашага Ліцвінскага краю і дошак ДСП (дрэва-стружачнай пліты — заўвага „Нівы") (перш за ўсё вытворчасці фірмаў «Крона» і «Эгер»). «Цесляры» робяць работу якасна, вокамгненна і надзейна: вы яшчэ не паспелі падумаць, а ваша шафа ўжо стаіць сабе ўтульнénька ў куце хаты і «ў вус ня дзьме». «Цесляры» з'яўляюцца не апошнімі філантропамі ў нашай краіне і частку свайго прыбытку дзеляць з ініцыятывамі, што працуюць на ніве духовага і нацыянальнага Адраджэння Бацькаўшчыны: замаўляючы мэблю ў цесляроў вы падтрымоўваеце справу Беларушчыны! І, дзецюкі, самае галоўнае, «Цесляры» працуюць паводле біблейскага прынцыпу: «І ўсё, што робіце, рабіце ад душы, як Госпаду, а не чалавеку» (Каласянам 3:23)", — вось так смела і з імпэтам сцвярджае Дашкевіч на сваім сайце пра сваю працу. Але гэта не ўсё, што можа зацікавіць патэнцыйнага кліента.

„Цесляры", як сцвярджаецца на старонцы „Кошты", маюць вельмі гнуткую цэнавую палітыку. „Беларускамоўным кліентам дзейнічае адмысловая акцыя — надбаўка 20% на развіццё беларускай мовы!! Расейскамоўным кліентам прапановы яшчэ больш прывабныя — 40% надбаўкі на развіццё беларускай гаворкі Ліцвінскага краю!! Людцы добрыя, дзеці зямлі маткі маёй! Не прапусціце шанец падтрымаць нацыянальнае адраджэнне Бацькаўшчыны!" — заклікаюць „Цесляры" на сваім сайце. З такой цэнавай палітыкі трэба разумець, што лепей за ўсё быць кліентам, які не размаўляе ані па-беларуску, ані па-руску, тады ніякіх надбавак не будзе.

Ну а калі кліент, які ведае хоць бы адну з гэтых дзвюх моў, пагаджаецца на прапанаваныя ўмовы, то сваёй замовай ён, паводле Дашкевіча, не пераплачвае „крутым" фірмам на ўтрыманне іх штату, не фінансуе пуцініствў, рашыстаў і ненавіснікаў Беларушчыны, а падтрымлівае „простых хлопцаў, якія займаюцца справай Беларушчыны і зарабляюць на хлеб уласнымі рукамі".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**






Класік айчыннага нацюрморта

# 130 гадоў з дня смерці Івана Хруцкага

Знакаміты мастак-партрэтыст, майстар нацюрморта Іван Хруцкі нарадзіўся 8 лютага 1810 г. у мясцовасці Ула (цяперашні Бешанковіцкі раён Беларусі). Паходзіў з сям'і грэка-каталіцкага святара Хамы Хруцкага. Пачатковую мастацкую адукацыю атрымаў на факультэце вольных мастацтваў Полацкага ліцэя. Там і прыдбаў першыя навыкі жывапісу. У 1827 г. Хруцкі пераехаў у Санкт-Пецярбург, дзе ў 1830 г. паступіў у Імперскую акадэмію мастацтваў. Кола яго знаёмых таго часу амаль невядомае, але зафіксаваны факт, што Хруцкаму спрыяў Іосіф Аляшкевіч, які таксама паходзіў з Беларусі — з Радашковічаў. Хруцкі паспяхова капіяваў творы еўрапейскіх майстроў 17-18 стагоддзяў, асэнсоўваў досвед класічнага мастацтва, засвойваў прыёмы пісання і законы кампазіцыі. У Санкт-Пецярбургу ён браў урокі ў брытанскага жывапісца Джорджа Доў.

Першая вядомая праца мастака датаваная 1832 годам. Яго карціны паступова атрымліваюць прызнанне грамадства і крытыкаў. Адначасна Хруцкі працуе і як дызайнер памяшканняў, стаўшыся вельмі хутка папулярным сярод багатых людзей. У 1836 г. Хруцкі быў узнагароджаны Галоўным сярэбраным медалём Акадэміі мастацтваў за свае нацюрморты. Таксама Іван Хруцкі пісаў вельмі добрыя партрэты. Так „Пажылая жанчына, якая вяжа шкарпэткі" прынесла яму Малы залаты медаль Акадэміі. У 1839 г. яму быў прысвоены тытул акадэміка мастацтва. Палатно Хруцкага 1839 г. „Нацюрморт з біноклем" было настолькі папулярнае ў сучаснікаў, што мастак неаднаразова паўтараў яго. На сёння вядома ажно 8 паўтораў пад рознымі назвамі.

Пасля смерці свайго бацькі ў 1840 г. Хруцкі назаўсёды пакінуў Санкт-Пецярбург і пасяліўся ў сваёй вёсцы Захарнічы каля Полацка. На яго плечы лёг клопат за маці і малодшых братоў і сясцёр. У 1845 г. Іван Хруцкі ажаніўся з Ганнай Бямбноўскай.

Гэты перыяд жыцця мастака вылучаецца пераважна рэлігійным кірункам у працы. Акрамя рэлігійных карцін ён таксама піша і партрэты, прыкладам Івана Глазунова, Іосіфа Семавока, Мікалая Малігоўскага і іншых сучаснікаў. У 1846-1854 гг. Хруцкі працаваў таксама ў Вільні, дзе пісаў абразы для іканастасаў.

Памёр Іван Хруцкі ў 1885 годзе. Пахаваны на фамільных могілках у Захарнічах.

Нацыянальная прыналежнасць Івана Хруцкага застаецца спрэчнай паміж даследчыкамі яго біяграфіі і творчасці. Прычына таму — гістарычная, культурная, этнічная і палітычная спецыфічнасць зямель, на якіх жыў і працаваў мастак. Для нас важна, што мастацкі музей Рэспублікі Беларусь у сваіх публікацыях называе яго славутым беларускім жывапісцам і славутым земляком.

У наш час Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь выпусціў памятную сувенірную манету ў гонар мастака. У выдадзеным у 1996 г. зборніку жывапісу беларускіх мастакоў „Мая зямля" сярод 114 прац прадстаўлены і нацюрморт Хруцкага „Плады і птушка". Творы мастака зберагаюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Трацякоўскай галерэі ў Маскве, Рускім музеі ў Санкт-Пецярбургу, Нацыянальным музеі ў Варшаве, а таксама ў прыватных зборах.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Як калядавалі ў Ляўкове

7 студзеня гэтага года ў першы дзень Раджджаства Хрыстова ў Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны хадзілі каляднікі. Адны з гвяздай, другія з іконкай. І што варта дадаць — усе яны прыгожа спявалі.

Цяпер дзяўчаты ідуць калядаваць у сваёй кампаніі, а хлопцы ў сваёй. Як мне помніцца, даўней гэтага не было. Хадзілі разам і было куды весялей. На мяне нахлынулі ўспаміны. Шмат гадоў перад 2000 г. калядкі хадзілі ў групах па сама менш пяць, а то і па сем чалавек. Хадзілі абавязкова з гвяздамі. Некаторыя мелі прыгожыя г.зв. гвязды-двухрадкі з доўгімі ды вузенькімі кутасамі. Былі таксама гвязды са спецыяльнымі невялічкімі фанарамі па двух баках.

Калядаваць выходзілі тады, калі стаяў ужо прыцемак. У сярэдзіне гвязды ярка свяціліся дзве свечкі. Спявалі на двары пад акном. Паўвеку таму калі хто з гаспадароў не меў грошай, то даваў каўбасу або пірог. Памятаю, бо ў 1958 г. сам я насіў торбачку, а ў ёй пару падсушаных на жэрдцы над печчу каўбас і тры пірагі. Мне з гэтай ношай было лепш, чым насіць гвязду.



Бывала, што і мне прыходзілася насіць гвязду. Старэйшыя хлопцы ганяліся за дзяўчатамі. Няраз вяртаўся я з гвяздай дадому сам адзін. Закаханыя калегі заставаліся ў суседняй вёсцы і іх ніяк не знойдзеш. Гвязду я мусіў прынесці. Рабіў жа яе мой бацька. На другі дзень мы збіраліся і дзялілі грошы. Мая мама варыла каўбасу і дзяліла яе ўсім пароўну. Абед быў смаката. Старэйшыя ад мяне сябры прыносілі віно. Куплялі ў краме ў крэдыт, а аддавалі яго закалядаванымі грашыма. Радасныя і бясхмарныя былі юнацкія гады майго жыцця. Найлепшыя тады, калі жылі яшчэ мае бацькі.

Пра Каляды ў 1960-х і 1970-х гадах у мяне самыя лепшыя ўспаміны. Шкада, што няма ўжо ў жывых двух маіх наваляўкоўскіх калег Вані Леўчука і Толіка Несцерука ды сяброўкі-равесніцы і аднакласніцы Гені Ігнацюк, з якімі хадзіў калядаваць.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Пара пачаць аднаўленне

Наступіў новы 2015 год. Які будзе, чаго можам спадзявацца ў бліжэйшай будучыні — цяжка сказаць. Пасля самаўрадавых выбараў і скандалу вакол Дзяржаўнай выбарчай камісіі наконт падліку галасоў упраўляючая ўлада нічога станоўчага не можа абяцаць. Канфлікт паміж лекарамі, згуртаванымі ў Зялёнагурскім пагадненні, і міністрам аховы здароўя па прычыне новых кантрактаў, праўда, закончыўся кампрамісам, але пару дзён пацыенты блудзілі быццам блудныя авечкі. На Гайнаўшчыне, хаця лекары не пратэставалі і не было закрытых амбулаторый, праблемы асноўнай медычнай дапамогі, справы чэргаў да спецыялістаў і аперацый патрабуюць неадкладнага вырашэння. Пакарыстаюся прыкладам Чаромхі. Ад паловы 2011 года кіраўніцтва Самастойнага публічнага прадпрыемства медычнай дапамогі хадайнічае за працаўладкаванне на пасадзе ў Гмінным асяродку здароўя ў Чаромсе сямейнага лекара. Абвестка была памешчана на сайце Чаромхаўскай гміны і актуальная яна па сённяшні дзень. Лекару прапануюцца атракцыйныя ўмовы працы, а мясцовы самаўрад забяспечвае кватэру для лекарскай сям'і. Аднак няма ахвотных. У мінулым скліканні Рады гміны тадышні войт Юры Шыкула знайшоў кандыдата, які нават адведаў Чаромху і аглядаў кватэру, але пасля след па ім прастыў. У леташніх выбарах справа лекара зноў ажыла. Кандыдаты на войта манілі выбаршчыкаў абяцанкамі. Але станоўчых перамен у гэтай справе не відаць. У Гмінным асяродку па-даўнейшаму працуе лекар-пенсіянер.

Не вырашаны таксама праблемы чыгуначнага транспарту, павышаных ставак за вываз нечыстотаў і г.д. Адна ў Чаромсе навінка — змяніўся гмінны самаўрад. На пасаду войта вярнуўся Міхал Врублеўскі, які да 2010 года (на працягу 22 гадоў) узначальваў гміну. Змены наступілі ў складзе Рады гміны. Старшыню Рады Надзею Суліму заступіў Сяргей Смык, а намесніка Вячаслава Барташэвіча — Валянціна Кердалевіч. З даўнейшых дэпутатаў засталіся адно чатыры радныя. Адзінаццаць народных абраннікаў — навічкі.

У выбарчай лістоўцы кандыдат на пасаду войта Міхал Врублеўскі напісаў, што ў сваёй праграме «прадугледжвае патрэбы паасобных грамадскіх груповак, асабліва дзяцей і моладзі», а ў час прысягі на II сесіі Рады гміны перад шматлікай публікай сказаў, што «ў час выконвання службовых абавязкаў (войта — У. С.), буду кіраваць добрасумленна і справядліва». І ўжо маем першыя вынікі. На гэтай жа сесіі былі прыняты першыя пастановы новаабранай Рады. У адной з іх назначалася зарплата войту, стаўкі дыет радным і солтысам. Зарплату войту Врублеўскаму дэпутаты назначылі паводле ставак, якімі ён карыстаўся ў 2010 годзе, г.зн. каля васьмі тысяч злотых брута. Месячныя стаўкі солтысам за ўдзел у пасяджэннях Рады — 100 зл. — засталіся па-даўнейшаму. Як раней, так і зараз, солтысам не належыцца ані капейкі за адсутнасць на пасяджэннях. Аднак радныя аказаліся прывілеяванай кастай. Паколькі агульная сума месячнай дыеты дэпутата складала 250 зл., дык за адсутнасць на сесіі яму плацілі 20% стаўкі, г.зн. 50 зл. Зараз яе павысілі на 50%, г.зн. за адсутнась на сесіі радны атрымае 125 зл. Стаўлю затым пытанне: «Чаму падаткаплацельшчыкі вымушаны плаціць свайму абранніку за адсутнасць?». У дэмакратычнай дзяржаве, прытым у рыначнай эканоміцы так быць не павінна. Карыстаймася літарай права — плаціць трэба за працу!.. Але ўлада, мабыць, карыстаецца сваімі прыкарытнымі прынцыпамі. Відаць, чаромхаўскія абраннікі пераймаюць звычку ПІСаўскіх «мадрыдскіх» парламентарыяў.

Каб адно на гэтым скончылася...

**Уладзімір СІДАРУК**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. муж маці = 26 _ 27 _ 71 _ 72 _ 39 _ 40 _;
2. адзінка вымярэння магутнасці электратоку = 14 _ 20 _ 56 _;
3. запруда = 44 _ 45 _ 54 _ 55 _;
4. прылада для трэніроўкі цяжкаатлетаў = 6 _ 25 _ 8 _ 7 _;
5. старажытная прылада для катавання, на якой расцягвалі цела пакутніка = 58 _ 59 _ 63 _ 62 _;
6. выраб з цяжкай варсістай тканіны, якім засцілаюць падлогу = 23 _ 24 _ 31 _ 32 _ 12 _;
7. горад з Майданам = 50 _ 51 _ 13 _ 5 _;
8. прадукт харчавання з фаршам у кішачнай абалонцы = 1 _ 42 _ 41 _ 28 _ 29 _ 30 _ 2 _;
9. частка аўтамашыны для размяшчэння грузаў = 48 _ 49 _ 65 _ 64 _ 43 _;
10. квактуха = 10 _ 11 _ 16 _ 17 _ 18 _ 15 _;
11. Янка, аўтар „Палескіх рабінзонаў" (1883-1971) = 66 _ 67 _ 68 _ 46 _;
12. 3,14 = 52 _ 53 _;
13. жонка балгарскага імператара = 35 _ 38 _ 33 _ 34 _ 36 _ 37 _;
14. адрасат аднаго з лістоў апостала Паўла, прапаведнік хрысціянства на Крыце = 19 _ 60 _ 21 _;
15. дзяржава з Магеланавым пралівам = 69 _ 70 _ 3 _ 4 _;
16. суботняе яўрэйскае свята = 9 _ 22 _ 61 _ 57 _ 47 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | 12 | 13 | | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| | | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | | 26 | 27 | 28 | 29 |
| | | | | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 |
| | | | | | | 38 | | 39 | 40 | 41 | 42 |
| | | | | | 43 | | | | | | |
| | | | | | | 44 | 45 | 46 | 47 | 48 | 49 |
| | | | | | | 50 | 51 | 52 | 53 | 54 | 55 |
| | | 56 | 57 | 58 | 59 | 60 | | 61 | 62 | 63 | 64 |
| | | | | 65 | 66 | 67 | 68 | 69 | 70 | 71 | 72 |

**Адказ на адгаданку з 52 нумара**

Уран, небарака, салдат, нектар, Дарданелы, Далі, сенакос, бляха, кабель, парог.

Рашэнне: **Рука не адсохне, калі ад сябе адгорне**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 18.01 — 24.01

**(22.03. — 20.04.)** 18-22.01. можаш рассакрэціць нейкую таямніцу або здабыць інфармацыю, якія асветляць старыя справы. Кіруйся інтуіцыяй, прадчуванні цябе не абмануць. У пачуццях абдумай чаго хочаш (да кахання і вернасці будзеш падыходзіць досыць лёгка); 17-21.01. паявяцца спакусы, ад якіх цяжка адмовіцца, і з-за гэтага праз пару тыдняў будзеш адзін.

**(21.04. — 21.05.)** Прафесійныя справы ідуць у добрым тэмпе. Ажыўленне і прыліў рамантычных пачуццяў. Дбай аб поры сну і здаровую ежу, але са здаровым розумам і логікай. Прымяняй расцягваючую гімнастыку, лепш не бегай (будуць балець лыткі і ступакі). Новыя фінансавыя шанцы, але 17-21.01. стрымайся з выдаваннем грошай. Не падыходзь легкадумна да праблем, бо з іх могуць выйсці сур'ёзныя непаладкі.

**(22.05. — 22.06.)** Адважся сказаць, што табе ляжыць на пячонцы — недаказанае можа шмат знішчыць. Пасля 21.01. будзеш мець нагоды шмат спраў перадумаць і глянуць на рэчы з іншага пункту гледжання; паразмаўляй з блізкімі. Блізняты, якія маюць праблемы са шчытавідкай (тарчыцай), павінны яе абследаваць. Працавіты час, магчымыя спрэчкі на рабоце; выслухай іншых. Добра паможа табе жанчына. 21.01. некаторыя справы спавольняцца або зменяць ход, некарысны час на падарожжы.

**(23.06. — 23.07.)** З 20.01. можаш старацца за крэдыты або датацыі; вельмі прыхільнымі да цябе будуць установы. Самотны Рак: трымай вочы вакол галавы, каб не прапусціць цікавай асобы. Хатнія справы могуць прыняць ненайлепшы абарот — можа рассакрэціцца нявыгадная таямніца, але зараз будуць і мілыя неспадзеўкі. Здароўе прынясе адпачынак. На працы магчымая сустрэча з кімсьці, што зменіць тваю прафесійную сцежку.

**(24.07. — 23.08.)** Навучышся супрацоўніцтва і з'яднаеш сабе сімпатыю атачэння. Атрымаеш нейкія важныя інфармацыі. 21-25.01. паправіцца твая спраўнасць і самадысцыпліна. Можаш прыняць адказныя задачы, з усім справішся ў час.

**(24.08. — 23.09.)** Адчуеш, што ты патрэбны. У сям'і — усё ў тваіх руках. Зоймуць цябе цалкам сямейныя справы, вельмі важныя, якіх нельга адкласці на пасля. Не шукай цяпер новых знаёмстваў, бо наладжаныя цяпер не прынясуць табе нічога добрага. Не спрачайся за дробязі. З 21.01. прыйдзецца закасаць рукавы і паправіць памылкі на працы.

**(24.09. — 23.10.)** Мілыя любоўныя сустрэчы. Добры час на генеральныя парадкі, перасяленне. Але будзеш мець слабы імунітэт, асабліва 18-22.01., пры найменшай нямогласці бяжы да лекара. Парабі абследаванні, правер кроў. 17-21.01. перацэніш свае магчымасці, схочаш змагацца за непатрэбнае табе, можа падвесці цябе інтуіцыя.

**(24.10. — 22.11.)** 18-22.01. разбудзяцца твае крэатыўнасць і жарснасць. Наведай даўно нябачаных сваякоў; на адной такой сустрэчы можаш даведацца чагосьці цікавага, што будзе мець уплыў на ўвесь год. 19-23.01. дробныя непаладкі могуць ператварыцца ў сур'ёзныя праблемы. Непаразуменні з іншымі высвятляй адразу. Скарпіёнка з пералому кастрычніка і лістапада 22-25.01. можа неспадзявана зацяжарыць!

**(23.11. — 22.12.)** 17-21.01. паявіцца блізка цябе новая асоба, якая здасца табе цікавай, але не аддавай ёй сваёй энергіі, бо схоча цябе падмануць. 17-21.01. не будзь нахабным і не павучай іншых, бо гэта можа стаць тваёй згубай, і хтосьці за гэта табе адплаціць. 21-25.01. будзеш цешыцца добрым настроем, задбаеш аб міжасобасныя кантакты.

**(23.12. — 20.01.)** 21-25.01. умела ацэніш сітуацыю, дойдзеш да трапных высноў. Добры час на вучобу, экзамены і важныя размовы. Чым будзеш займацца — мусіш добра выстартаваць. Нечаканыя прыбыткі з неспадзяванай крыніцы.

**(21.01. — 19.02.)** Наладзіш знаёмствы з людзьмі, якія будуць ад цябе моцна адрозніваюцца. Таксама будзе і час кахання (асабліва 17-21.01), можа не назаўжды, але рамантычна і з дрыжыкамі. З 20.01. станеш самаўпэўненым і бравурна здабудзеш тое, на чым табе залежыць. Больш рашучыя і энергічныя дзеянні на фінансавым полі. Але вельмі пільнуйся са здароўем — пагражае табе інфекцыя, адразу бяжы да лекара.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш знаёміцца з новымі людзьмі, асабліва маладзейшымі за цябе, шанц наладжання каштоўнага сяброўства. Але не дай сябе выкарыстоўваць. Стратэгічныя прыёмы ў прафесіі, 18-22.01. не будзе найлепш з тваім імунітэтам, не кантактуйся з хворымі. 22-26.01. добра дагаворышся з дзецьмі і каханай асобай. Чакае цябе шмат шчасця ў замежных падарожжах.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.



# Украіна
## ў цяні вайны (17)

Ва Украіне замест падперціся інфармацыяй пра ваенныя падзеі, мы былі вымушаны карыстацца выпадковымі меркаваннямі людзей, пачутых з другой або трэцяй рукі. У іх прамаўляла мэтанакіраваная недагаворанасць, што дадаткова азмрочвала мазгі і збівала з толку. І як не дзіўна, гэта ахоўвала ад залішніх нерваў, хоць не супакойвала. Частка людзей відавочна цярпела ад бяссонніцы і расстройства псіхікі. Ва Ужгарадзе, горадзе на ўкраінска-венгерскім этнічным памежжы, у начны час была ўведзена прагібіцыя (сухі закон). Тут ведалі больш, чым у Каламыі, паколькі пра ваенныя падзеі інфармавалі дадаткова венгерскія СМІ і яны не заўсёды гаварылі пра поспехі і перамогі на фронце. Ад гэтага ішла дадатковая каламуць, паколькі венгерскую мову разумела толькі частка грамадзян, якая часта кіравала сімпатыю ў бок Масквы. У адной ужгарадскай кавярні, дзе мы прыселі пасля стамляльнага падарожжа, мужчыны, як у час Першай сусветнай вайны, выседжвалі над філіжанкай кавы з носам уваткнутым у газету. Загалоўкі лакальнай прэсы крычалі пра патрэбу змагання з карупцыяй, пра люстрацыю, пра багаты ўраджай вінаграду і пра карысці ад сухога закону. Дзякуючы апошняй справе ў горадзе мелі прыпыніцца разбой і п'янкі. Мы чыталі пра арганізаваны спакой ды цвярозасць і адначасова гарэлі душой, каб чым хутчэй з'ехаць з гэтага «спакойнага» горада. У нервах і сэрцы адчувалася трывога.

* * *

Сіла прапаганды прамовіла якраз на ўкраінска-венгерскім памежжы. Падарожнічаючы па глыбінцы, мы поўнасцю былі адключаны ад грунтоўнай інфармацыі пра падзеі на фронце. Пра ваенныя дзеянні інфармаваў пяты канал тэлебачання. Агучаныя там ваенным прэс-сакратаром зводкі застаўлялі думаць, «што ўсё адбываецца згодна з планам і будзе добра». Як паветра не хапала жывых справаздач і рэпартажаў з зоны АТА. Часцей за ўсё аўтары передач спасылаліся на словы камандзіраў або байцоў, змешчаныя імі на фейсбуку. Апошнюю крыніцу інфармацыі мала ўжо дзе ў свеце ўспрымаюць сур'ёзнай і верагоднай, а тут прамаўляла як найсапраўдная праўда.

Ужо пасля перасячэння мяжы пачаліся праблемы з нашымі мабілкамі. Калі мы паспрабавалі выслаць эсэмэскі знаёмым у Польшчу, частка дзесьці знікала, частка даходзіла праз гадзіну або дзень. Так сама былі прыпынены эсэмэскі з Польшчы. Большасць з іх пасыпалася як град, усе ўраз гуртам, якраз пасля перасячэння мяжы. Частка з іх, што здзіўляла і застаўляла думаць пра нейкую цыберпартызаншчыну, адблакавалася ў Карпатах. Падобныя праблемы сустракалі мы ў час тэлефонных званкоў. Украінцы яўна ігнаравалі ўсе гэтыя блакады і падазроны шолах у трубцы тэлефона. Здавалася, уся міжасобасная камунікацыя і жыццёвыя праблемы пераліліся тут у тэлекамунікацыю. Узяць бы такую маршрутку. Палова пасажыраў безупынна камусьці званіла, каб цягам гадзіны плесці абы-што. Маладзён, гадоў дваццаць, цягам паўгадзіны талкаваў сябру як скачаць з інтэрнэту фільм і як паставіць яго ў тэлевізар. Цётка, якая сама ехала на хрэсьбіны да сваякоў, наракала сваёй сяброўцы на пітушчага мужыка, «з якім сорамна паказацца ў людзях», таму пакінула яго ў хаце. Іншая жанчынка абменьвалася рэцэптамі на слоікі з гуркамі і перцам. Выглядала так, быццам людзі ігнаравалі кантроль ды дадаткова хацелі прадэманстраваць адвагу, незалежнасць і адначасова пазбыцца падаючых з дня на дзень грыўняў.

* * *

Несеныя на хвалях шчымлівых песень пра ідэальнае каханне, — такі рэпертуар паставілі па ўсёй Заходняй Украіне шафёры маршрутак, — мы безупынна драмалі або пазяхалі, адпіхвалі стомленасць і віртуальную павуціну. У Мукачаве па тэлебачанні мы даведаліся пра тое, што Дональд Туск быў абраны старшынёй Рады Еўрасаюза. Гэтую сенсацыйную вестку мы прынялі з недаверам і падазронасцю як чарговую аператыўную зводку з зоны АТА. Гэта была першая псіхалагічная паслядоўнасць ад залішняй дозы недагавораных і апрацаваных у пазітыўным духу ньюсаў.

Сам спакой і задаволенасць ад падарожжа здаваліся нерэальнымі, яны не грэлі і не калыхалі. Ды як на злосць, па пятках тапталі ўсякія чорцікі і спакушэнні. Калі мы ўкраінцам гаварылі, што вяртаемся з Пачаеўскай лаўры, нам чамусьці прапанавалі наведаць яшчэ ўніяцкія фэсты і святыні. Місіянерскі імпэт, хоць старанна прыхаваны, быў сугучны таму, што адбывалася ў краіне. Пад уплывам вайны, тысячы праваслаўных вернікаў пераходзілі ад Маскоўскага пад Кіеўскі патрыярхат або далучыліся да Уніяцкай царквы.

У Каламыі нас таксама спрабавалі пераверсці ў лепшую веру. Усё пачалося ад каламуці і недаразумення. Хлопцы, з якімі мы пазнаёміліся ў рэстаране, не жадалі нашых расказаў пра Пачаеўскую лаўру. Гэтая тэма была для іх закрытай.

Іван, самы аўтарытэтны мужык у грамадзе, падняўся з-за стала і выказаў свой погляд на тэму лаўры. Як не дзіўна, ён прамаўляў не ў наш бок, а толькі да сваіх кампаньёнаў, каб тыя зразумелі ў чым справа. Хлопцы сапраўды слухалі яго з прыдкрытымі ратамі.

— Раз я быў у Пачаеве і больш не паеду, — пачаў. — А ведаеце чаму? — спытаў ён пасля красамоўнай паўзы.

— Чаму? — спытаў нехта з-за стала.

— Бо там няма культуры, — адрэзаў.

Кампанія да нядаўна рагатлівая і па-казацку дзіка неўтаймаваная, замоўкла, быццам нехта пасеяў мак, слушна прадчуваючы каларытныі і адначасова хітры аповед.

* * *





Спачатку Іван расказаў як трапіў у лаўру. Зразумела, не па сваёй волі, толькі з-за намовы сябра. Той прапанаваў заглянуць на пяць хвілін, паглядзець як гэта адбываецца. Ужо на пачатку Іван адчуў сябе ашуканым. Бо тыя пяць хвілін расцягнуліся як рускі месяц, на цэлыя пяць гадзін. Аднак ён — талерантны і поўны зразумення чалавек, выстаяў да канца вячэрні. Нармальная справа. Ды і хор прыгожа спяваў, быццам з якой оперы.

— А на канец я перажыў шок, — кажа загадкава, інтануючы голас Іван. — Пасля гэтых высокіх і прыгожых спеваў людзі гурмой кінуліся да бацюшкі цалаваць у крыж. Усе раптам, на стрымгалоў, быццам на пагібель. Ну чагосьці такога я не чакаў у такім вядомым месцы! — падвёў Іван.

Здаецца, ніхто са слухачоў не чакаў такога падвядзення, таму апавядальнік рашыў дабавіць яшчэ свае тры грошы:

— А ведаеце чаму там няма культуры? — спытаў ён яшчэ ў сваіх сяброў.

Ніхто не ведаў.

Дзіўна, сціск і таўканіну ведае і разумее кожны ўкраінец, які падарожнічае маршруткай. Ды і зусім не спалучае гэтай таўканіны з культурай.

— Бо сапраўдныя ўкраінцы шырокім колам абмінаюць Пачаеў. Там прыязджаюць толькі расейцы, малдаване і беларусы, — падвёў усю справу Іван. Апошнюю сенсацыю ён гаварыў з халодным задавальненнем, гледзячы ў мой бок. Усё з-за маёй падляшскай мовы, якую Іван палічыў беларускай мовай дзесьці ад Пінска.

(працяг будзе)

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК


ISSN 0546-1960